*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 2 (1205) 14 СТУДЗЕНЯ 2015 г.**

## Дарагія сябры “Нашага слова”!

У гэтым квартале мы маем значнае паніжэнне падпіскі ў асобных раёнах. Закончылася акцыя “Бліжэй да чытача”, у ходзе якой на газету былі падпісаны 318 школ краіны. Разам з тым вырасла падпіска ў Менску, Наваполацку, Шаркаўшчыне, Вваложыне і ў некаторых іншых месцах. Дзякуй усім, хто прыклаў сілы да справы падпіскі. Разам з тым яшчэ засталіся раёны, куды не паступае ніводнага нумара газеты.

| | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 58 | 18 |
| Бяроза р.в. | 10 | 8 |
| Белаазёрск р.в. | 1 | 1 |
| Бярэсце гор. | 13 | 11 |
| Ганцавічы р.в. | 1 | - |
| Драгічын р.в. | 1 | 1 |
| Жабінка р.в. | 1 | 1 |
| Іванава р.в | 1 | 1 |
| Івацэвічы р. в. | 10 | 8 |
| Камянец р.в. | 1 | 1 |
| Кобрын гор. | 39 | 1 |
| Лунінец гор. | 3 | 2 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | 1 |
| Маларыта р.в. | 1 | 1 |
| Пінск гор. | 7 | 7 |
| Пружаны р.в. | 25 | 7 |
| Столін р.в. | 1 | 1 |
| **Усяго:** | **174** | **70** |
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | 1 | 1 |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 54 | 27 |
| Віцебск РВПС | 18 | 3 |
| Верхнедзвінск р.в. | 5 | 4 |
| Глыбокае р.в. | 23 | 6 |
| Гарадок р.в. | 11 | - |
| Докшыцы р.в. | 1 | 2 |
| Дуброўня р.в. | - | 2 |
| Лёзна р.в. | 1 | 1 |
| Лепель р. в. | 1 | 1 |
| Міёры р.в. | 2 | 2 |
| Наваполацк гор. | 14 | 17 |
| Орша гор. | 6 | 5 |
| Полацк гор. | 21 | 6 |
| Паставы р.в. | 19 | 12 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 2 | 2 |
| Талочын р.в. | 1 | 1 |
| Ушачы р.в. | 2 | 2 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 2 |
| Шаркоўшчына р.в. | 6 | 8 |
| Шуміліна р.в. | 1 | 1 |
| **Усяго:** | **192** | **107** |
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 3 | 3 |
| Барысаў гор. | 37 | 12 |
| Вілейка гор. | 4 | 2 |
| Валожын гор. | 8 | 11 |
| Дзяржынск р.в. | 11 | 9 |
| Клецк р.в. | 1 | 1 |
| Крупкі р.в. | 6 | 5 |
| Капыль р.в. | 23 | 3 |
| Лагойск | 6 | 4 |
| Любань р.в. | 1 | - |
| Менск гор. | 275 | 297 |
| Менск РВПС | 9 | 11 |
| Маладзечна гор. | 13 | 11 |
| Мядзель р.в. | 24 | 5 |
| Пухавічы РВПС | 3 | 3 |
| Нясвіж р.в. | 3 | 1 |
| Смалявічы р.в. | 1 | 3 |
| Слуцк гор. | 21 | 7 |
| Салігорск гор. | 23 | 7 |
| Ст. Дарогі р.в. | 1 | - |
| Стоўбцы р.в. | 5 | 3 |
| Узда р.в. | 2 | 2 |
| Чэрвень р.в. | 3 | 3 |
| **Усяго:** | **483** | **403** |
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 4 | 4 |
| Брагін р.в. | - | 1 |
| Ветка р.в. | 1 | 1 |
| Гомель гор. | 29 | 24 |
| Гомель РВПС | 1 | 3 |
| Добруш р.в. | 2 | - |
| Ельск р.в. | 1 | - |
| Жыткавічы р.в. | 32 | 15 |
| Жлобін гор. | 3 | 3 |
| Калінкавічы гор. | 1 | 1 |
| Карма р.в. | - | - |
| Лельчыцы р.в. | 2 | 1 |
| Лоеў р.в. | 1 | 1 |
| Мазыр гор. | 2 | 4 |
| Акцябарскі р.в. | 1 | 2 |
| Нароўля р.в. | - | - |
| Петрыкаў р.в. | 2 | 1 |
| Рэчыца гор. | 2 | 1 |
| Рагачоў гор. | 1 | 1 |
| Светлагорск гор. | 2 | 3 |
| Хойнікі р.в. | - | 1 |
| Чачэрск р.в. | 2 | 3 |
| **Усяго:** | **90** | **70** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставіца | 2 | 3 |
| Ваўкавыск гор. | 10 | 9 |
| Воранава р.в. | 6 | 5 |
| Гародня гор. | 44 | 39 |
| Гародня РВПС | 19 | 20 |
| Дзятлава р.в. | 15 | 12 |
| Зэльва р.в. | 4 | 2 |
| Іўе р.в. | 2 | 1 |
| Карэлічы р.в. | 4 | 4 |
| Масты р.в. | 2 | 4 |
| Наваградак гор. | 5 | 3 |
| Астравец р.в. | 5 | 4 |
| Ашмяны р.в. | 3 | 5 |
| Смаргонь гор. | 3 | 3 |
| Слонім гор. | 7 | 6 |
| Свіслач р.в. | 4 | 4 |
| Шчучын р.в. | 3 | 1 |
| Ліда | 57 | 17 |
| **Усяго:** | **195** | **142** |
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 3 | 4 |
| Бялынічы р.в. | 2 | 1 |
| Быхаў р.в. | - | 2 |
| Глуск р.в. | 1 | 1 |
| Горкі гор. | 2 | 1 |
| Дрыбін р.в. | 1 | 1 |
| Кіраўск р.в. | 2 | 1 |
| Клічаў р.в. | 1 | - |
| Клімавічы р.в. | 1 | 1 |
| Касцюковічы р.в. | 1 | 1 |
| Краснаполле р.в. | 1 | 1 |
| Крычаў р.в. | - | 2 |
| Круглае р.в. | 2 | 2 |
| Мсціслаў р.в. | 2 | 2 |
| Магілёў гор. | 29 | 21 |
| Магілёў РВПС | 1 | 2 |
| Асіповічы гор. | 11 | 12 |
| Слаўгарад р.в. | 2 | 1 |
| Хоцімск р.в. | 1 | 1 |
| Чэрыкаў р.в. | - | 2 |
| Чавусы р.в. | 1 | 1 |
| Шклоў р.в. | 2 | 3 |
| **Усяго** | **66** | **63** |
| **Усяго на краіне:** | **1200** | **855** |

ISSN 2073-7033


9 772073 703003

## Рэспубліканская Рада ТБМ

11 студзеня 2015 г., у нядзелю, у сядзібе ТБМ у Менску адбылася чарговая Рада ТБМ. На паседжанні Рады былі разгледжаны наступныя пытанні:






1. Справаздача старшыні ГА “ТБМ імя Ф. Скарыны” за 2014 год.
2. Прыняцце Плана дзейнасці ТБМ на 2015 год.
3. Прыняцце Пастановы Рады ГА ТБМ “Аб памеры складак сяброў ТБМ”.
4. Аб ініцыятыве працы па ўнясенні зменаў “У закон аб мовах Рэспублікі Беларусь” і ўключэнні Закона “Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы “ ў план падрыхтоўкі праектаў нарматыўных прававых актаў Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследванняў.
5. Прыняцце Пастановы Рады ГА ТБМ “Аб зменах у складзе Сакратарыяту ГА ТБМ”.
6. Рознае.

Рада зацвердзіла Справаздачу старшыні ГА “ТБМ імя Ф. Скарыны” за 2014 год, прыняла План дзейнасці ТБМ на 2015 год з улікам папраўак і прапанаў сяброў Рады.

Рада ўстанавіла колькасны склад рабочай групы па ўнясенні зменаў “У закон аб мовах Рэспублікі Беларусь” і ўключэнні Закона “Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы” ў план падрыхтоўкі праектаў нарматыўных прававых актаў Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследванняў і прызначыла Дзяніса Тушынскага кіраўніком групы, а Тацяну Фадзееву намеснікам.

Рада ўключыла ў склад Сакратарыяту ТБМ Тацяну Навасельскую.

Рада ТБМ пастанавіла ўвесці з 1 лютага 2015 г. наступныя памеры складак для сяброў арганізацыі (за год):
1. Працоўныя - 70 тысяч.
2. Пенсіянеры - 30 тысяч.
3. Беспрацоўныя - 10 тысяч.
4. Студэнты - 20 тысяч.
5. Школьнікі - 5 тысяч.
6. Грамадзяне Расіі - 250 расійскіх рублёў.
7. Грамадзяне Украіны - 50 грыўняў.
   - грамадзяне Еўразвязу - 7 еўра
   - грамадзяне іншых краін - 10 долараў ЗША.

Рада заслухала паведамленне Ўладзіміра Коласа па сітуацыі ў ЕГУ і выпрацавала пазіцыю ТБМ па гэтым пытанні.

***Наш кар.***

# ЯРАСЛАВУ КЛІМУЦЮ - 75



**КЛІМУЦЬ Яраслаў Іванавіч** (10.01.1940, в. Вострава Мастоўскага р-на), беларускі крытык і літаратуразнавец, педагог. Кандыдат філалагічных навук (1979). Дацэнт (1982). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў (1996). З сялянскай сям'і. Вучыўся ў Вастраўскай пачатковай школе, у Гудзевіцкай СШ Мастоўскага р-на. У 1958-59 працаваў у калгасе, у сельскай краме. У 1959-62 - у войску. Скончыў філфак БДУ (1967). У 1967- 68 - настаўнік 8-годкі ў в. Дубаўцы (Ваўкавыскі р-н), у 1968-69 - у рэдакцыі уздзенскай райгазеты "Чырвоная зорка". У 1969-75 выкладаў беларускую мову і літаратуру у Ліцвянскай СШ на Уздзеншчыне.

З 1975 працуе на кафедры беларускай літаратуры Магілёўскага педінстытута (універсітэта). Завочна скончыў аспірантуру ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук Беларусі. У 1979 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю ("Якуб Колас і руская савецкая паэзія", нав. кіраўнік - доктар філалагічных навук Ю.С. Пшыркоў). Чытаў курсы ўводзін у літаратуразнаўства, гісторыі беларускай літаратуры, гісторыі беларускай літаратурнай крытыкі, літаратурнага краязнаўства і інш. З 1989 па 2001 год быў дэканам філалагічнага факультэта. Ініцыятар і актыўны ўдзельнік стварэння ўніверсітэцкага літаратурнага музея. Першы літаратурна-крытычны выступ - у раённым друку ў 1967, у рэспубліканскім публікуецца з 1974.

Сфера асноўных навуковых інтарэсаў Я. Клімуця - узаемасувязі славянскіх літаратур, творчасць Я. Купалы і Я. Коласа, сучасная беларуская проза. Апублікаваў манаграфію "Жыццёвасць традыцый: Якуб Колас і руская савецкая паэзія" (Мінск, 1985) і каля 140 літаратурна-крытычных артыкулаў.

З 2006-2007 навучальнага года з'яўляецца сумяшчальнікам на кафедры беларускай літаратуры (асноўнае месца працы - кафедра англійскага, агульнага і славянскага мовазнаўства).

Старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны.

***Вікіпедыя.***

## Заява Сакратарыяту ТБМ

### ў абарону гонару і годнасці сябра "Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Хведара Нюнькі

На адрас нашай арганізацыі і прыватныя адрасы сяброў ТБМ рассылаюцца лісты, у якіх ачарняецца асоба спадара Хведара Нюнькі, і такім чынам уносіцца раскол у міжнародны беларускі рух.

Сакратарыят ТБМ лічыць такія паводзіны асобных дзеячаў, а таксама некаторых сродкаў масавай інфармацыі, у тым ліку і беларускай службы "Радыё Свабода", непрымальнымі. Складваецца ўражанне, што гэта кампанія публічнага ганьбавання паважанага намі чалавека кіруецца з аднаго цэнтра з мэтай у чарговы раз раскалоць і пасварыць паміж сабой беларускіх патрыётаў, якія намагаюцца адстаяць сапраўдную незалежнасць нашай краіны ў няпростых сучасных геапалітычных абставінах. Мы ведаем спадара Хведара Нюньку, які шмат гадоў актыўна супрацоўнічае з ТБМ і заслугоўвае пашаны і павагі, як крыштальна чыстага чалавека, асабліва ў адносінах да фінансаў.

Сакратарыят ТБМ цалкам салідарны з пазіцыяй ЗБС "Бацькаўшчына" і рэдактарам газеты "Беларус" у Нью-Ёрку Ганнай Сурмач (поўны тэкст чытайце на zbsb.org) і заклікае ўсіх тых, хто лічыць сябе патрыётам Беларусі, выказацца ў падтрымку Хведара Нюнькі.

8 студзеня 2015 г. г. Менск.

# Юбілейныя даты 2015 года

**1 студзеня** — 70 гадоў з дня нараджэння **Вольгі Міхайлаўны Іпатавай** (1945, г.п. Мір Карэліцкага р-на), пісьменніцы.

**8 студзеня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Пятра Адамавіча Гуда** (н. 8.1.1945, Менск), этнографа, фалькларыста, рэжысёра, сцэнарыста, педагога, кандыдата гістарычных навук, прафесара.

**10 студзеня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Яраслава Клімуця**, крытыка, літаратуразнаўца.

**15 студзеня** - 30 гадоў таму (1985 г.) у Гародні адкрыты Рэспубліканскі музей атэізму і гісторыі рэлігіі (з 1989 г. — Беларускі музей гісторыі рэлігіі).

**15 студзеня** - 75 гадоў таму (1940 г.) на тэрыторыі Заходняй Беларусі ўтвораны 101 раён, сфармаваны савецкія органы ўлады.

**16 студзеня** - 110 гадоў з дня нараджэння **А.В. Пальчэўскага** (1905-1979), празаіка, паэта, драматурга, перакладчыка.

**20 студзеня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Яна Пятроўскага** (1905 - 2002), беларускага перакладчыка, празаіка, мемуарыста, выдаўца.



**20 студзеня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Гайдучыка Сяргея Міронавіча** (1915 - 1984), беларускага мовазнаўца-германіста.

**21 студзеня** - 175 гадоў з дня нараджэння **С.В. Ляскоўскага** (1840- ?), удзельніка паўстання 1863-64 гг.

**22 студзеня** - 125 гадоў з дня нараджэння **Пётры Простага** (сапр. Бобіч Ільдэфонс, 1890-1944), беларускага празаіка, драматурга, публіцыста, перакладчыка.

**24 студзеня** - 130 гадоў з дня нараджэння **Юрыя Віктаравіча Тарыча** (сапр. Аляксееў, 1885, г. Полацк - 21.02. 1967), заснавальніка беларускай мастацкай кінематаграфіі, рэжысёра, сцэнарыста.

**25 студзеня** — 60 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Іванавіча Лакоткі** (1955, в. Кузьмічы Дзятлаўскага р-на), доктара гістарычных навук, дырэктара Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі.

**26 студзеня** - 25 гадоў таму (1990 г.) Вярхоўны Савет БССР прыняў закон "Аб мовах Беларускай ССР".

**28 студзеня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Леаніда Дайнекі**, паэта, празаіка.

**30 студзеня** - 120 гадоў з дня нараджэння **Кірыла Пракопавіча Арлоўскага** (1895, в. Мышкавічы, цяпер Кіраўскі р-н — 13.01.1968), гаспадарчага дзеяча, Героя Савецкага Саюза, Героя Сацыялістычнай Працы.

**4 лютага** - 500 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Радзівіла Чорнага,** дзяржаўнага, ваеннага і культурнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага. Памёр у 1565 г.



**13 лютага** - 310 гадоў з дня нараджэння **Францішкі Уршулі Радзівіл** (1705 - 1753), асветніцы і драматурга.

**15 лютага** - 70 гадоў з дня нараджэння **Яўгена Міхайлавіча Сахуты** (1945, в. Вечатарова Стаўбцоўскага р-на), доктара мастацтвазнаўства.

**16 лютага** - 250 гадоў з дня нараджэння **Мусніцкага Нікадыма** (1765 - 1805), паэта, драматурга, гісторыка, педагога.

**16 лютага** - 90 гадоў з дня нараджэння **Івана Якаўлевіча Навуменкі** (1925, г. Васілевічы Рэчыцкага р-на — 17.12.2006), народнага пісьменніка, акадэміка НАН Беларусі.

**19 лютага** — 125 гадоў з дня нараджэння **Казіміра Сваяка** (сапр. Стаповіч Канстанцін, 1890, в. Барані Астравецкага р-на — 06.05.1926), паэта, рэлігійнага і грамадскага дзеяча.

**19 лютага** - 100 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Бярозкі** (сапр. Смаршчок Мацвей, 1915 - 2008), беларускага паэта, заслужанага доктара медыцыны.

**19 лютага** - 80 гадоў з дня нараджэння **Генадзя Сцяпанавіча Аўсяннікава** (1935, г. Магілёў), акцёра, народнага артыста БССР і СССР.

**20 лютана** - 70 гадоў з дня нараджэння **Таісы Мікалаеўны Бондар** (1945 - 2005), беларускай паэтэсы, празаіка.

**21 лютага** - Міжнародны дзень роднай мовы.

**24 лютага** — 80 гадоў з дня нараджэння **Рыгора Іванавіча Барадуліна** (1935, в. Гарадок Ушацкага р-на), народнага паэта Беларусі.

**25 лютага** - 80 гадоў з дня нараджэння **Генадзя Міхайлавіча Лыча** (1935, в. Магільнае Уздзенскага р-на), эканаміста, акадэміка НАН Беларусі.

**26 лютага** - 210 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Здановіча** (1805-1868), гісторыка, пісьменніка, педагога, кандыдата філасофіі.

**26 лютага** - 75 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Якубавіча Пузыні** (1940, г. Менск), музыкі, майстра па вырабу народ. інструментаў.

**3 сакавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Фёдаравіча Ладысева** (1940 г., в. Дзяцель Дубровенскага р-на), доктара гістарычных навук, прафесара.

**4 сакавіка** - 125 гадоў з дня нараджэння **Вінцука Адважнага** (сапр. Германовіч Язэп Станіслававіч, в. Гальшаны Ашмянскага р-на — 26.12.1978), каталіцкага святара, пісьменніка, журналіста.

**5 сакавіка** - 85 гадоў з дня нараджэння **Паўла Ўладзіміравіча Сцяцко**, доктара філалагічных наук, прафесара Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.

**6 сакавіка** - 25 гадоў з часу стварэння (1990) згуртавання беларусаў свету **"Бацькаўшчына"**.

**10 сакавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Аляксея Антонавіча Марачкіна** (1940, в. Язёры Чэрыкаўскага р-на), жывапісца, грамадскага дзеяча.

**12 сакавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Алены Генадзеўны Калечыц** (1940, г. Нальчык Кабардзіна-Балкарскай АССР, Расія), доктара гістарычных навук, прафесара.

**13 сакавіка** - 125 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Савіча**, беларускага гісторыка, доктара гістарычных навук, прафесара. З в. Лапеніца (Ваўка-выскі р-н). Памёр у 1957 г.

**16 сакавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Ўладзіміра Аляксандравіча Карпава** (1940 - 2006), беларускага мовазнаўца.

**17 сакавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Валянціна Ермаловіча**, заслужанага работніка культуры Беларусі

**17 сакавіка** - 25 гадоў таму назад пачала выходзіць газета **"Наша слова"**.

**18 сакавіка** - 80 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Булыкі**, мовазнаўцы, доктара філалагічных навук, прафесара.

**19 сакавіка** - 120 гадоў з дня нараджэння **Тамаша Тамашавіча Грыба (**1895, в. Паляны, цяпер Астравецкі р-н - 25.1.1938, Прага, Чэхія), палітычнага і грамадскага дзеяча.

**19 сакавіка** - 100 гадоў з дня нараджэння **Васіля Іванавіча Матэвушава** (1915 - 1974), беларускага паэта.

**21 сакавіка** - Сусветны дзень паэзіі.

**21 сакавіка** - 175 гадоў з дня нараджэння **Францішка Бенядзікта Казіміравіча Багушэвіча** (псеўданім Мацей Бурачок, 1840, фальварак Свіраны Віленскага пав. - 28.04.1900), паэта, класіка беларускай літаратуры.

**23 сакавіка** - 150 гадоў з дня нараджэння **Старога Ўласа** (сапр Сівы-Сівіцкі Ўладзіслаў Пятровіч, 1865-1939), беларускага паэта.

**23 сакавіка** - 120 гадоў з дня нараджэння **Васіля Пятровіча Сташэўскага** (1895 - 1937), беларускага празаіка, драматурга.

**26 сакавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Паўлавіча Касцюка** (1940 г., в. Масцішча Навагрудскага р-на), доктара гістарычных навук, акадэміка НАН Беларусі.

**28 сакавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння **У.І. Мархеля** (1940-2013), паэта перакладчыка, літаратуразнаўца, кандыдата філалагічных навук.

**29 сакавіка** - 110 гадоў з дня нараджэння **Майсея Якаўлевіча Грынблата** (1905 - 1983) беларускага этнографа, фалькларыста, гісторыка.

**1 красавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Самойлавіча Басалыгі** (1940, г. Слуцк), графіка.

**3 красавіка** - 130 гадоў з дня нараджэння **Барыса Андрэевіча Вількіцкага** (1885, г. Санкт-Пецярбург — 06.03. 1961, Бельгія), гідрографа-геадэзіста, падарожніка.

**6 красавіка** — 105 гадоў з дня нараджэння **Барыса Уладзіміравіча Кіта** (Кіты, 1910, г. Санкт-Пецярбург), педагога, вучонага.

**10 красавіка** — 115 гадоў з дня нараджэння **Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага** (1900, в. Багацьеўка Мсціслаўскага р-на — 20.11.1988), геолага, географа, эканаміста, акадэміка АН БССР.

**10 красавіка** - 110 гадоў з дня нараджэння **Сцяпана Андрэевіча Баркоўскага** (1905 - 1966), беларускага этнографа, літаратурнага крытыка.

**12 красавіка** - 125 гадоў з дня нараджэння **Янкі Нёмансакага** (сапр. Пятровіч Іван Андрэевіч, 1890 - 1937), беларускага празаіка, публіцыста, грамадскага дзеяча.

**14 красавіка** - 130 гадоў з дня нараджэння **Сымона Аляксандравіча Рак-Міхайлоўскага** (1885, в. Максімаўка, цяпер Маладзечанскі р-н — 27.11.1938, г. Менск), палітычнага і грамадскага дзеяча.



**15 красавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Алены Таболіч**, кандыдата філалагічных навук, беларускага мовазнаўца, педагога, паэта-перакладчыка.

**18 красавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Эдуарда Сямёнавіча Ханка** (1940, Казахстан), кампазітара, аўтара папулярных песень.

**21 красавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Філарэта** (свецкае Вахрамееў Кірыла Варфаламеевіч, 1935, г. Масква), праваслаўнага царкоўнага дзеяча Беларусі, ганаровага Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі.

**23 красавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Віктара Казько** (1940, г. Калінкавічы) - беларускага празаіка.

**1 траўня** - 430 гадоў з дня нараджэння **Сафіі Слуцкай** (1585 - 1612), беларускай праваслаўнай святой.

**1 траўня** - 140 гадоў з дня нараджэння **Г.А. Ціхава**, астранома і астрафізіка.

**2 траўня** - 150 гадоў з дня нараджэння **Зыгмунта Макрэцкага**, беларускага і польскага батаніка, прафесара. З маёнт. Дзітрыкі (Лідскі р-н). Памёр у 1936 г.

**4 траўня** - 300 гадоў з дня нараджэння **Г.Ф. Радзівіла** (1715-1760), заснавальніка Слуцкага тэатра.

**8 траўня** - 70 гадоў таму (1945 г.) закончылася Вялікая Айчынная вайна, а **9 траўня** аб'яўлена днём Перамогі над фашысцкай Германіяй.

**11 траўня** - 160 гадоў гісторык **Яўстах Піевіча Тышкевіч** заснаваў у Вільні музей старажытнасцей, большасць экспанатаў якога былі з Беларусі.

**14 траўня** - 20 гадоў таму (1995 г.) у Беларусі праведзены першы рэферэндум, які спыніў адраджэнне беларускай мовы ў нашай краіне.

**17 траўня** — 170 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Якаўлевіча Нікіфароўскага** (1845—10.6.1910), этнографа, фалькларыста.

**19 траўня** - 475 гадоў таму назад каралева Бона пацвердзіла Магдэбурургскае права для Гародні.

**20 траўня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Міколы Вяршыніна** (Мікалая Пятровіча, 1940 - 2010), беларускага паэта, сатырыка, гумарыста.

**27 траўня** — 180 гадоў з дня нараджэння **Антона Данілавіча Трусава** (1835, г. Барысаў — 1886?), рэвалюцыянера-дэмакрата, удзельніка паўстання 1863—1864 гг.

**4 чэрвеня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Іванавіча Гурскага** (1905 - 1972), беларускага мовазнаўца.

**6 чэрвеня** - 70 гадоў таму (1945 г.) у Бярэсці адкрыты настаўніцкі інстытут.

**8 чэрвеня** - 120 гадоў з дня нараджэння **Ігната Дварчаніна**, беларускага грамадска-культурнага дзеяча, педагога, паэта, доктара філасофіі. З в. Погіры (Дзятлаўскі р-н). Загінуў у 1937 г.

**9 чэрвеня -** 25 гадоў з часу адкрыцця (1990) Літаратурна-мемарыяльнага музея-сядзібы Ф. Багушэвіча ў **Кушлянах** (Смаргонскі р-н).

**12 чэрвеня** - 120 гадоў з дня нараджэння **Леапольда Іванавіча Родзевіча** (1895 - 1938?), беларускага палітычнага і грамадскага дзеяча, празаіка, публіцыста, паэта, драматурга.

**13 чэрвеня** - 175 гадоў з дня нараджэння **Дамбавецкага Аляксандра Станіслававіча** (1840 - каля 1914), беларускага краязнаўца і грамадскага дзеяча.

**17 чэрвеня** - 125 гадоў таму (1890 г.) у Менску адкрыты гарадскі тэатр. З 1920 г. у гэтым памяшканні дзейнічае Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы.

**18 чэрвеня** - 175 гадоў таму (1840 г.) указам імператара Мікалая I забаронена выкарыстоўваць у афіцыйных дакументах тэрміны "беларуская" і "літоўская" губерні і ўведзена замест іх назва "Северо-Западный край".

**18 чэрвеня** - 85 гадоў з дня нараджэння **Яўгена Петрашэвіча**, беларускага музычнага педагога, кампазітара.

**25 чэрвеня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Пятруся Усцінавіча Броўкі** (1905 — 25.03.1980), народнага паэта Беларусі.



**30 чэрвеня** - 125 гадоў з дня нараджэння **Макара Краўцова** (сапр. Касцевіч Макар Мацвеевіч, 1890-1939), беларускага паэта, перакладчыка, крытыка, публіцыста.

**3 ліпеня** - 120 гадоў з дня нараджэння **Сары Рувімаўны Каган** (1895 - 1941), беларускай паэтэсы, празаіка. Пісала на яўрэйскай, беларускай і рускай мовах.

**3 чэрвеня** — 80 гадоў з дня нараджэння **Васіля Васільевіча Зуёнка** (1935, в. Мачулішчы Крупскага р-на), пісьменніка.

**6 ліпеня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Пятра Фёдаравіча Глебкі** (1905 — 18.12.1969), паэта.

**8 ліпеня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Міхася Канстанцінавіча Клышкі** (1925 - 1984), беларускага мовазнаўца.

**15 ліпеня** — 605 гадоў таму (1410 г.) адбылася **Грунвальдская бітва.**

**22 ліпеня** - 120 гадоў з дня нараджэння **Паўла Восіпавіча Сухога** (1895, г. Глыбокае - 15.09.1975), авіяканструктара.

**25 ліпеня** - 175 гадоў з дня нараджэння **Юльяна Фаміча Крачкоўскага** (1840, в. Азяты, цяпер Жабінкаўскі р-н - 25.7.1903), этнографа, фалькларыста, археографа, старшыні Віленскай археаграфічнай камісіі (1888 - 1902 гг.).

**27 ліпеня** - 25 гадоў таму (1990 г.) Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

**28 ліпеня** - 125 гадоў з дня нараджэння **Язэпа Рэшаца** (1890 - 1958), беларускага рэлігійнага і культурна-асветніцкага дзеяча.

**29 ліпеня** - 15 гадоў таму (2000 г.) у Менску адбыўся Усебеларускі з'езд, на якім прыняты "Акт незалежнасці Беларусі".

# Юбілейныя даты 2015 года

**2 жніўня** - 175 гадоў таму (1840 г.) указам Мікалая I спынена дзеянне Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. на тэрыторыі Віленскай, Гарадзенскай і Менскай губерняў.

**6 жніўня** - 175 гадоў з дня нараджэння **Альгерда Рышардавіча Абуховіча** (псеўданім Граф Бандзінелі, 1840, в. Калацічы Бабруйскага пав., цяпер Глускі р-н - 22.8.1898, Слуцк), пісьменніка, аднаго з пачынальнікў жанру байкі ў беларускай літаратуры.



**9 жніўня** - 105 гадоў з дня нараджэння **Ларысы Антонаўны Геніюш** (1910, х. Жлобаўцы, цяпер Ваўкавыскі р-н - 7.4.1983, г.п. Зэльва), паэткі і беларускай патрыёткі.

**10 жніўня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Сямёнавіча Корзуна** (1935, в. Мышкавічы Кіраўскага р-на), доктара гістарычных навук, прафесара.

**10 жніўня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Вераб'я**, літаратуразнаўцы, кандыдата філалагічных навук.

**16 жніўня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Іосіфавіча Падлужнага** (1935 - 2005), беларускага мовазнаўца.

**17 жніўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Васіля Міхайлавіча Нікіцевіча** (1925 - 1994), беларускага мовазнаўца.

**20 жніўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Барыса Паўлавіча Міцкевіча** (1925 - 1983), беларускага літаратуразнаўца.

**21 жніўня** - 75 гадоў з часу стварэння (1940) Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы Беларусі імя Р. Шырмы.

**27 жніўня** - 175 гадоў таму (1840 г.) у м. Горы-Горкі Магілёўскай губ. адкрыта земляробчая школа (цяпер Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія).

**28 жніўня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Часлава Найдзюка**, дзеяча вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі (20-30-я гг.). З в. Байдаты (Ваўкавыскі р-н). Памёр у 1995 г.

**31 жніўня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Янкі Казекі** (Івана Дарафеевіча, 1915 - 2000), беларускага крытыка і літаратуразнаўца, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.

**Жнівень** - 160 гадоў з дня нараджэння **Ігната Яўхімавіча Грынявіцкага** (1855, маёнтак Басін, цяпер Клічаўскі р-н - 13.3.1881, Санкт-Пецярбург), рэвалюцыянера-народавольца.

**Жнівень** - у Менску 70 гадоў таму (1945 г.) надрукаваны першы сатырычны часопіс "Вожык".

**2 верасня** - 70 гадоў таму (1945 г.) завяршылася Другая Сусветная вайна і **3 верасня** стала Днём Перамогі над імперыялістычнай Японіяй.

**6 верасня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Віктара Іванавіча Казлоўскага** (1905 - 1975), беларускага паэта.

**7 верасня** — 130 гадоў з дня нараджэння **Івана Паўлавіча Сікоры** (1885, в. Малыя Алашкі Шаркаўшчынскага р-на — 26.09.1966), славутага садоўніка, беларускага селекцыянера.

**7 верасня** — 100 гадоў таму (1915 г.) нямецкія войскі прарвалі абарону рускіх войск ("Свянцянскі прарыў") у кірунку Свянцыны — Барысаў.

**7 верасня** - 25 гадоў з дня адкрыцця (1990) Полацкага музея беларускага кнігадрукавання.

**10 верасня** - 160 гадоў з дня нараджэння **Еўдакіма Раманавіча Раманава** (1855 - 1922) беларускага этнографа, фалькларыста, археолага, краязнаўца, педагога, літаратара.



**11 верасня** - 125 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Васільевіча Шатэрніка** (1890 - 1934), беларускага мовазнаўца і педагога.

**12 верасня** — 225 гадоў з часу нараджэння **Івана Іванавіча Грыгаровіча** (1790 - 13.11.1852), гісторыка, археографа, мовазнаўца.

**12 верасня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Рыгора Міхайлавіча Семашкевіча** (1945 - 1982), беларускага паэта, крытыка.

**15 верасня** — 160 гадоў з дня нараджэння **Кастуся Аляксеевіча Аляксееўскага** (1855, Віленская губ. — пасля 1918), ваеннага дзеяча БНР, які ў снежні 1917 г. прысягаў бел-чырвона-беламу сцягу.

**17 верасня** - 425 гадоў з дня атрымання г. Лідай Магдэбургскага права.

**19 верасня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Янкі Тумiловіча** (Івана Людвігавіча, 1905 - 1938), беларускага паэта.

**20 верасня** - 70 гадоў з дня адкрыцця (1945) Літаратурнага музея Янкі Купалы.

**25 верасня** - 140 гадоў з дня нараджэння **Сяргея Канстанцінавіча Паўловіча** (1875 - 1940), беларускага грамадска-культурнага дзеяча і педагога.

**25 верасня** - 120 гадоў з дня нараджэння **Ванды Антонаўны Лявіцкай** (па мужу Лёсік, 1895-1968), беларускай паэтэсы, празаіка.

**26 верасня** - Еўрапейскі дзень моваў.

**28 верасня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Барыса Сцяпанавіча Лапава** (1925 - 1967), беларускага мовазнаўца.

**1 кастрычніка** - 80 гадоў з дня нараджэння **Міхася Васільевіча Няхая** (1935 - 1997), беларускага літаратуразнаўца.

**2 кастрычніка** - 25 гадоў таму назад выйшаў першы нумар газеты Вярхоўнага Савета БССР "Народная газета".

**7 кастрычніка** - 250 гадоў з дня нараджэння **Міхала Клеафанса Агінскага**, беларускага і польскага дзяржаўнага, ваеннага і культурнага дзеяча, кампазітара. Жыў у маёнт. Залессе (Смаргонскі р-н) у 1802-23 гг. Памёр у 1833 г.

**10 кастрычніка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Кастуся Тарасава**, беларускага пісьменніка, журналіста.

**14 кастрычніка** - 100 гадоў з дня нараджэння **Ўсевалада Ігнатавіча Краўчанкі** (1915 - 1961), беларускага празаіка, драматурга, перакладчыка.

**17 кастрычніка** - 150 гадоў з дня нараджэння **Люцыяна Жалігоўскага**, польскага вайскоўца, генерала. З Ашмянаў. Памёр у 1947 г.

**19 кастрычніка** - 125 гадоў з дня нараджэння **Сяргея Епіфанавіча Палуяна** (1890, г. Брагін Гомельскай вобл. - 20.4.1910, Кіеў), празаіка, публіцыста, аднаго з пачынальнікаў прафесійнай літаратурнай крытыкі.

**20 кастрычніка** - 130 гадоў з дня нараджэння **Алеся (Аляксандра) Лаўрэнцьевіча Бурбіса** (псеўданім Стары Піліп, 1885, г. Вільня - 20.03. 1922), палітычнага і тэатральнага дзеяча.



**21 кастрычніка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Льва Антонавіча Салаўя** (1925 - 1988), беларускага перакладчыка, літаратуразнаўца, крытыка.

**24 кастрычніка** - 220 гадоў з часу Трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай.

**25 кастрычніка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Льва Паўлавіча Мірачыцкага** (1925 - 2002), беларускага гісторыка-славіста, літаратара.

**27 кастрычніка** — Дзень памяці вялікага князя ВКЛ **Вітаўта Вялікага** (1350—1430).

**27 кастрычніка** - 125 гадоў з дня нараджэння **Віктара Шутовіча**, беларускага культурнага дзеяча, каталіцкага духоўніка. З в. Шутавічы (Смаргонскі р-н). Памёр у 1960 г.

**30 кастрычніка** — 110 гадоў таму (1905 г.) рэвалюцыйны камітэт Мазыра ўзяў уладу, утварылася так званая "Мазырская рэспубліка", якая існавала да 7 лістапада 1905 г.

**30 кастрычніка** - 110 гадоў з дня нараджэння **Андрэя Ануфрыевіча Бембеля** (1905, г. Веліж Смаленскай вобл. — 13.10.1986), народнага мастака.

**30 кастрычніка** - 130 гадоў з дня нараджэння **Антонія Альбрэхта Вільгельма Радзівіла** (1885, г. Берлін — 18.12.1935), беларускага палітычнага дзеяча.

**1 лістапада** - 110 гадоў з дня нараджэння **Міхася Кавыля** (сапр. Лешчанка Язэп Казіміравіч, 1915, в. Покрашаў Слуцкага р-на — ?), паэта.

**2 лістапада** - 85 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Андрэевіча Баршчэўскага** (псеўданім Алесь Барскі, 1930, в. Бондары Беластоцкага ваяводства, Польшча), беларускага паэта, літаратуразнаўца, фалькларыста, грамадскага дзеяча.

**4 лістапада** - 75 гадоў з дня нараджэння **Яўгена Сяргеевіча Гучка** (1940, г. Слуцк), паэта.

**7 лістапада** - 225 гадоў з дня нараджэння **Караля Падчашынскага**, беларускага архітэктара, педагога, прафесара.

**8 лістапада** - 130 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Кірылавіча Баброўскага** (1785, в. Вулька Бельскага пав. цяпер Польшча - 21.09.1848), славіста, доктара тэалогіі.

**8 лістапада** - 125 гадоў з дня нараджэння **Янкі Пачопкі** (Івана Пятровіча, 1890 - 1977), беларускага паэта, празаіка, фалькларыста.

**9 лістапада** - 75 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Нічыпаравіча Сідарцова** (1935, в. Клімаўка Гомельскага р-на), доктара гістарычных навук, прафесара.

**11 лістапада** - 140 гадоў з дня нараджэння **Альберта Францавіча Паўловіча** (1875 - 1951), беларускага паэта-гумарыста, драматурга.

**11 лістапада** - 90 гадоў з дня нараджэння **Алены Іванаўны Чабярук** (1925 - 2007), беларускага мовазнаўца.

**12 лістапада** - 130 гадоў з дня нараджэння **Міхайлы Грамыкі** (Міхаіла Аляксандравіча, 1885 - 1969), беларускага празаіка, драматурга, вучонага.

**14 лістапада** - 110 гадоў з дня нараджэння **Міхася Васілька** (сапр. Касцевіч Міхаіл Восіпавіч, 1905 - 1960), беларускага паэта.)

**14 - 27 лістапада** - 95 гадоў таму (1920 г.) адбыўся **Слуцкі збройны чын**.

**15 лістапада** - 600 гадоў з часу пасвячэння **Рыгора Цамблака** ў мітрапаліты Кіеўскія на царкоўным саборы ў Навагрудку

**16 лістапада** - 110 гадоў з дня нараджэння **Яна Скрыгана** (Івана Аляксеевіча, 1905 - 1992), беларускага празаіка, паэта.

**16 лістапада** - 90 гадоў з дня нараджэння **Кастуся Акулы** (сапр. Качана Аляксандра Ігнатавіча, 1925, в. Верацеі Докшыцкага р-на - 29.01. 2008, г. Таронта, Канада), пісьменніка.

**25 лістапада** - 15 гадоў таму (2000 г.) у Оршы адкрыты літаратурны музей пісьменніка Уладзіміра Караткевіча.

**26 лістапада** - 210 гадоў з дня нараджэння **Яўстафія Янушкевіча** (1805 - 1874), кнігавыдаўца, публіцыста, мемуарыста.

**26 лістапада** - 90 гадоў з дня нараджэння **Юрыя Уладзіміравіча Семянякі** (1925, г. Мінск — 16.07.1990), кампазітара, народнага артыста Беларусі.

**26 лістапада** - 85 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Сымонавіча Караткевіча** (1930, г. Орша — 25.7.1984), пісьменніка, драматурга, публіцыста, кінасцэнарыста.

**15 снежня** - 280 гадоў з дня нараджэння **Давыда Зыгмунтавіча Пільхоўскага** (1735 - 1803), пісьменніка, перакладчыка, выдаўца, дзеяча эпохі Асветніцтва на Беларусі.

**15 снежня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Браніслава Аляксандравіча Плотнікава** (1940 - 2004), беларускага мовазнаўца.

**14 (26) снежня** - 190 гадоў таму (1825 г.) у Санкт-Пецярбургу адбылося паўстанне дзекабрыстаў, дваранскіх рэвалюцыянераў. У ім прынялі ўдзел і беларусы.

**15 снежня** - 15 гадоў таму (2000 г.) была закрыта Чарнобыльская АЭС.

**20 снежня** - 175 гадоў з дня нараджэння **Казіміра Альхімовіча** (1840, в. Дэмбрава Шчучынскага р-на - 31.12. 1916), мастака, графіка.

**20 снежня** - 125 гадоў з дня нараджэння **Язэпа Ядкоўскага**, беларускага археолага і краязнаўца.

**20 снежня** - 70 гадоў таму (1945 г.) выйшаў першы нумар "Настаўніцкай газеты".

**21 снежня** - 125 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Аладава** (1890-1972), беларускага кампазітара і педагога, народнага артыста БССР.

**22 снежня** - 70 гадоў таму (1945 г.) у Менску адкрыты Беларускі тэатральны інстытут (цяпер Беларуская акадэмія мастацтваў).

**28 снежня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Іванавіча Кісялёўскага** (1925 - 1986), беларускага мовазнаўца.

**1030 гадоў** з часу першага ўпамінання (985) у гістарычных крыніцах пра **Заслаўе**.

**625 гадоў** таму (1390 г.) гораду **Берасцю** дадзена самакіраванне па Магдэбургскаму праву.

**620 гадоў** таму з часу першага ўпамінання ў пісьмовых крыніцах пра **Карэлічы** і **Мір**.

**530 гадоў** з дня нараджэння **Яна Вісліцкага**, паэта-лацініста.

**525 гадоў** з дня нараджэння **Францішка Скарыны** (1490 - 1551).

**490 гадоў** з дня выхаду (1525) першага выдання **"Апостала"** ў перакладзе Ф. Скарыны.

**475 гадоў** з дня нараджэння **Васіля Мікалаевіча Цяпінскага** (каля 1540, маёнтак Цяпіна каля Лепеля — 1603?), асветніка-гуманіста, пісьменніка, кнігавыдаўца.

**275 гадоў** з дня нараджэння **Тадэвуша Рэйтана**.

**275 гадоў** з часу стварэння (1740) **Нясвіжскага тэатра Радзівілаў**. Існаваў да 1792 г.

**225 гадоў** з часу нараджэння **Яна Баршчэўскага** (каля 1790, в. Мурагі, цяпер Расонскі р-н — 12.03.1851), пісьменніка, аўтара кнігі "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях".

**225 гадоў** таму (1790 г.) **Ксаверы Карпіцкі** здзейсніў Першае беларускае падарожжа ў Аўстралію.

**190 гадоў** таму (1825 г.) у Менску, на гары Раманаўскага прадмесця, пабудаваны **Пішчалаўскі замак**, помнік архітэктуры рэтраспектыўнага замкавага стылю. Ён быў ператвораны ў турму, дзе адбывалі пакаранне В. Дунін-Марцінкевіч, Я. Колас і іншыя літаратары. У ім былі напісаны многія творы беларускай літаратуры.

**180 гадоў** таму (1835 г.) у г. Полацку заснаваны кадэцкі корпус.

**175 гадоў** таму (1840 г.) кіраўнічыя органы Беларускай праваслаўнай царквы пераведзены са Слуцка ў Менск. Сюды перавезены бела-рускі цар-звон і пераведзена духоўная семінарыя.

**175 гадоў** таму (1840 г.) у Менску Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам адкрыты першы тэатр.

**175 гадоў** таму (1840 г.) у Санкт-Пецярбургу беларускім пісьменнікам **Рамуальдам Падбярэзкім (Друцкім-Падбярэзкім)** створаны беларускі гурток.

**160 гадоў** таму (1855 г.) створана Віленская археалагічная камісія.

**140 гадоў** таму назад (1875-1942?) нарадзіўся **Марцін Кухта**, беларускі і летувіскі кнігавыдавец і друкар.

**130 гадоў** з дня нараджэння **Палуты Бадуновай** (Пелагеі Аляксандраўны, 1885, Навабеліца, цяпер у межах Гомеля — 29.11.1938, г. Мінск), палітычнай дзеячкі.

**90 гадоў** з часу стварэння (1925) Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі.

**75 гадоў** таму ў Менску пачала дзейнічаць кінафабрыка "Савецкая Беларусь".

**70 гадоў** з дня заснавання (1945) філіяла Літаратурнага музея Янкі Купалы ў Вязынцы.

**70 гадоў** з дня заснавання (1945) філіяла Літаратурнага музея Янкі Купалы ў Ляўках.



№ 2 (1205) 14 СТУДЗЕНЯ 2015 г. НАША СЛОВА

# План дзейнасці

## Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" на 2015 год

| № | Назва мерапрыемства | Тэрмін выканання | Адказны за правядзенне |
|---|---|---|---|
| 1. | Асветніцка-педагагічная праца<br>- з бацькамі, дзеці якіх пойдуць у дзіцячыя садкі і першыя класы ў 2014-2015 навучальным годзе;<br>- з бацькамі і іх дзецьмі, якія навучаюцца ў рускамоўных і беларускамоўных адукацыйных установах;<br>- з арганізацыямі і ўстановамі з мэтай прапаганды беларускай мовы і літаратуры;<br>- правядзенне курсаў беларускай мовы і беларусазнаўства.<br>- звярнуцца да дзяржаўных і недзяржаўных тэлеканалаў па дапамогу ў стварэнні беларускамоўных класаў. | На працягу года | Бацькоўскі камітэт, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 2. | Праца рэгіянальных арганізацый ТБМ па захаванні і адкрыцці беларускамоўных адукацыйных устаноў: збор подпісаў, лісты ў дзяржаўныя ўстановы, пікеты і інш. | На працягу года | Рэгіянальныя структуры ТБМ, Менская гарадская арганізацыя ТБМ, |
| 3. | Супрацоўніцтва з дзяржаўнымі структурамі па пытанні выкарыстання дзяржаўнай беларускай мовы, Міністэрствам сувязі па пытаннях выпуску беларускамоўнай прадукцыі. | На працягу года | Сакратарыят (каардынацыя) |
| 4. | Супрацоўніцтва з банкаўскімі структурамі па пытаннях афармлення на беларускай мове бланкаў, рэквізітаў і іншай банкаўскай прадукцыі. | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 5. | Праца з прадпрыемствамі і прадпрымальнікамі па ўкараненні беларускамоўнага афармлення выпусканай прадукцыі. | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 6. | Работа па пашырэнні кола падпісчыкаў і чытачоў на "Наша слова", "Новы час ", "Верасень" і іншыя беларускамоўныя газеты і часопісы. | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 7. | Правядзенне гістарычных і літаратурных сустрэч у межах кампаніі "Будзьма". | На працягу года | Сакратарыят, першасныя суполкі ТБМ А. Трусаў |
| 8. | Святкаванне Міжнароднага дня роднай мовы.<br>Правядзенне круглых сталоў, сустрэч з чытачамі (разам з пісьменнікамі і журналістамі).<br>Агульнанацыянальная дыктоўка. | 21 лютага<br>15 сакавіка<br>25 сакавіка | Сакратарыят, Мінская гарадская арганізацыя ТБМ, абласныя і раённыя структуры ТБМ |
| 9. | Забеспячэнне дзейнасці інтэрнэт-партала ТБМ. | | Сакратарыят |
| 10. | Правядзенне Міжнароднай канферэнцыі "Моўныя правы і іх абарона"<br>. | 28 сакавіка | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 11. | Адзначыць Еўрапейскі дзень моваў. | верасень | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 12. | Маніторынг моўнай сітуацыі і стану з моўнымі правамі | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 13. | Конкурсы-агляды мясцовага друку ў рэгіёнах Беларусі "З беларускім словам" | На працягу года | Рэгіянальныя структуры ТБМ |
| **13.** | **Адзначыць наступныя даты:** | | Сакратарыят, "Наша слова" |
| | **25 гадоў** таму назад (1990 г.) Вярхоўны Савет БССР прыняў закон "Аб мовах Беларускай ССР". | 26 студзеня | |
| | **500 гадоў** з дня нараджэння Мікалая Радзівіла Чорнага, дзяржаўнага, ваеннага і культурнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага. Памёр у 1565 г. | 4 лютага | |
| | **125 гадоў** з дня нараджэння Казіміра Сваяка, беларускага паэта, каталіцкага святара. З в. Барані (Астравецкі р-н). Памёр у 1926 г. | 19 лютага | |
| | **100 гадоў** з дня нараджэння Анатоля Бярозкі (сапр. Смаршчок Мацей, 1915-2008), беларускага паэта, заслужанага доктара медыцыны. | 19 лютага | |
| | **75 гадоў** з дня нараджэння Пузыні Ўладзіміра Якубавіча (1940-2012), беларускага майстра-рэстаўратара музычных інструментаў. | 26 лютага | |
| | **125 гадоў** з дня нараджэння Вінцука Адважнага, беларускага пісьменніка, каталіцкага святара. З мяст. Гальшаны (Ашмянскі р-н). Памёр у 1978 г. | 4 сакавіка | |
| | **25 гадоў** з часу стварэння (1990) Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". | 6 сакавіка | |
| | **125 гадоў** з дня нараджэння Аляксандра Савіча, беларускага гісторыка, доктара гістарычных навук, прафесара. З в. Лапеніца (Ваўкавыскі р-н). Памёр у 1957 г. | 13 сакавіка | |
| | **90 гадоў** з дня нараджэння Валянціна Ермаловіча, заслужанага работніка культуры Беларусі | 17 сакавіка | |
| | **25 гадоў** таму пачала выходзіць газета "Наша слова", орган "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны". | 17 сакавіка | |
| | **120 гадоў** з дня нараджэння Тамаша Грыба, беларускага грамадска-палітычнага і культурнага дзеяча, доктара філасофіі. З в. Паляны (Смаргонскі р-н). Памёр у 1938 г. | 19 сакавіка | |
| | **100 гадоў** з дня нараджэння Васіля Іванавіча Матэвушава (1915 - 1974), беларускага паэта. | 19 сакавіква | |
| | **175 гадоў** з дня нараджэння Францішка Багушэвіча, беларускага пісьменніка, пачынальніка беларускага нацыянальнага адраджэння, удзельніка паўстання супраць царызму ў 1863-1864 гг. Памёр у 1900 г. | 21 сакавіка | |
| | **150 гадоў** з дня нараджэння Старога Ўласа (сапр. Сівы-Сівіцкі Ўладзіслаў Пятровіч, 1865-1939), беларускага паэта. | 23 сакавіка | |
| | **125 гадоў** з дня нараджэння Янкі Нёманскага. Беларускага пісьменніка, эканаміста, акадэміка Беларускай акадэміі навук. З в. Шчорсы (Навагрудскі р-н). Загінуў у 1937 г. | 12 красавіка | |
| | **130 гадоў** з дня нараджэння Сымона Рака-Міхайлоўскага, беларускага грамадска-палітычнага і культурнага дзеяча. У 1918-1920 гг. настаўнічаў у Гародні, у 1920-1922 гг. - у Барунах (Ашмянскі р-н.) Загінуў у 1938 г. | 14 красавіка | |
| | **75 гадоў** з дня нараджэння Віктара Казько (1940), беларускага пісьменніка. | 23 красавіка | |
| | **120 гадоў** з дня нараджэння Ігната Дварчаніна, беларускага грамадска-культурнага дзеяча, педагога, паэта, доктара філасофіі. З в. Погіры (Дзятлаўскі р-н). Загінуў у 1937 г. | 8 чэрвеня | |
| | **25 гадоў** з дня адкрыцця літаратурна-мемарыяльнага музея Ф. Багушэвіча ў Кушлянах (Смаргонскі р-н). | 9 чэрвеня | |
| | **125 гадоў** з дня нараджэння Краўцова Макара (сапр. Касцевіч Макар Мацвеевіч, 1890-1939), беларускага паэта, перакладчыка, крытыка, публіцыста. | 30 чэрвеня | |
| | **25 гадоў** таму (1990 г.) Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце БССР. | 27 ліпеня | |
| | **175 гадоў** з дня нараджэння Альгерда Абуховіча (псеўд. Граф Бандзінелі, 1840-1898), беларускага паэта, мемуарыста, перакладчыка. | 6 жніўня | |
| | **225 гадоў** з часу нараджэння Івана Іванавіча Грыгаровіча (1790-13.11.1852 г.), гісторыка, археографа, мовазнаўцы. | 12 верасня | |
| | **250 гадоў** з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага, беларускага і польскага дзяржаўнага, ваеннага і культурнага дзеяча, кампазітара. Жыў у маёнтку Залессе (Смаргонскі раён) у 1802-1823 гг. Памёр у 1833 г. | 7 каст-чніка | |
| | **75 гадоў** з дня нараджэння Кастуся Тарасава. | 10 каст-чніка | |
| | **125 гадоў** з дня нараджэння Сяргея Палуяна (1890-1910), пісьменніка, крытыка, публіцыста. | 19 каст-чніка | |
| | **525 гадоў** з часу нараджэння Францішка Скарыны. | | |
| | **475 гадоў** з часу нараджэння Васіля Мікалаевіча Цяпінскага (каля 1540, маёнтак Цяпіна каля Лепеля - 1603?), асветніка-гуманіста, пісьменніка, кнігавыдаўца. | | |
| | **225 гадоў** з часу нараджэння Яна Баршчэўскага (каля 1790, в. Мурагі, цяпер Расонскі р-н - 12.03.1851), пісьменніка, аўтара кнігі "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях". | | |
| | **95 гадоў** Слуцкага збройнага чыну. | лістапад | |
| 14. | Адзначыць юбілейныя даты сяброў ТБМ:<br>- Вольгі Іпатавай - 70 гадоў;<br>- Яраслава Клімуця - 75 гадоў.<br>- Васіля Зуёнка - 80 гадоў | <br>1 студзеня<br>10 студзеня<br>3 ліпеня | Сакратарыят, "Наша слова" |

### Яе нікому не адняць

Лёс міласцівы да мяне
Быў у ваенныя часіны.
І сёння скардзіцца мне грэх -
Няма для гэтага прычыны.

У незваротнасць не сплыло
Жыццё ніводнае імгненне.
Я добра помню, што было
На першай хвалі Адраджэння.

І што не здзейснена тады,
Надыйдзе дзень - і акрыяе,
Зноў праз імклівыя гады
Сцяг гістарычны залунае.

І мова родная гучаць
У Беларусі годна будзе,
Яе нікому не адняць,
Бо ў сэрцах захавалі людзі.

### Ва ўвесь голас

Я сын твой, Радзіма, а ты мая маці,
Мяне не разлучаць ніколі з табой.
За роднае слова я буду трымацца
Пакуль не сыду ў незваротны спакой.

І сёння, калі недавумкі спрабуюць
Зняважыць твой гонар, цябе абылгаць,
Я тым, хто табой бессаромна гандлюе,
Хачу ва ўвесь голас рашуча сказаць:

- Прэч брудныя рукі ад Маці-Радзімы!
Вы, д'яблавы служкі, куды вас нясе?
Ніколі вам, як бы ўпарта не пнуліся,
Радзіму маю не адняць у мяне!

*Фелікс Шкірманкоў.*

# Канстытуцыйны суд пра моўны баланс

Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь Сакратарыят
вул. К.Маркса, 32, 220016, г. Мінск
тэл./факс (+375-17) 327 52 09
e-mail: ksrb@kc.gov.by

Конституционный Суд Республики Беларусь Секретариат
ул. К. Маркса, 32, 220016, г. Минск
тел./факс (+375-17) 327 52 09
e-mail: ksrb@kc.gov.by

26.12.2014 № 01-02-04/305
На № ____________ ад ____________

Старшыні ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"
Трусаву А.А.

Паважаны Алег Анатольевіч!

Ваш зварот па пытанні ўзбуджэння ў адпаведнасці з артыкулам 158 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб канстытуцыйным судаводстве" вядзення па справе аб устараненні ў заканадаўстве аб мовах прабелаў, выключэнні ўім калізій і прававой нявызначанасці вывучаны ў Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь.

Пытанне аб роўным выкарыстанні дзвюх дзяржаўных моў неаднаразова разглядалася Канстытуцыйным Судом як у парадку абавязковага папярэдняга кантролю канстытуцыйнасці законаў, так і ў парадку рэалізацыі права ўносіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, у палаты Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, іншыя дзяржаўныя органы ў адпаведнасці з іх кампетэнцыяй прапановы аб неабходнасці ўнясення ў акты заканадаўства змяненняў і (або) дапаўненняў, прыняцця новых нарматыўных прававых актаў.

Прававыя пазіцыі Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь па розных пытаннях выкарыстання беларускай мовы ў грамадскіх адносінах выкладзены, у прыватнасці, у рашэннях ад 4 снежня 2003 г. "Аб выкарыстанні беларускай і рускай моў у сферах абслугоўвання, абароту пластыкавых картачак і ў сістэме дзяржаўнага сацыяльнага страхавання", ад 10 лістапада 2010 г. "Аб адпаведнасці Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь Закона Рэспублікі Беларусь "Аб найменнях геаграфічных аб'ектаў", ад 29 чэрвеня 2012 г. "Аб адпаведнасці Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях адукацыі".

Так, Канстытуцыйны Суд адзначыў, што згодна з артыкулам 13 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" (далей - Закон аб мовах) на транспарце, у гандлі, у сферы медыцынскага і бытавога абслугоўвання выкарыстоўваецца беларуская або руская мова. Аднак пры фармальна-юрыдычным раўнапраўі дзяржаўных моў на практыцы баланс іх выкарыстання не заўсёды захоўваецца. У сувязі з гэтым у мэтах забеспячэння фактычнай роўнасці дзяржаўных моў Канстытуцыйны Суд прапанаваў разгледзець пытанне аб унясенні ў Закон аб мовах і іншыя акты заканадаўства змяненняў і дапаўненняў (рашэнне ад 4 снежня 2003 г.).

Рэалізацыя прапаноў Канстытуцыйнага Суда адносіцца да сферы дзейнасці Парламента - Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

У сувязі з выкладзеным паведамляем, што падстаў для ўзбуджэння вядзення па справе ў адпаведнасці з артыкулам 158 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб канстытуцыйным судаводстве" і паўторнага разгляду пытанняў, па якіх Канстытуцыйны Суд раней прымаў рашэнні, не ўстаноўлена.

Начальнік Сакратарыята А.В. Каравай.

# Людцы добрыя, пачуйце вялікіх беларусаў

Чаму ж мы не хочам слухацца нашых беларускіх вялікіх людзей? Ва ўсім свеце народы цэняць сваіх прарокаў, людзей таленавітых, якія клікалі сваіх землякоў да міру, свабоды, незалежнасці. Заклікалі свой народ любіць усё сваё блізкае, роднае, звалі шанаваць сваю мову, культуру, народныя традыцыі і абрады, ведаць гісторыю роднага краю. І народ іх слухаўся.

І толькі мы, беларусы, як аглухлі да заклікаў славутых сыноў нашай Бацькаўшчыны. І мучыць многіх пытанне: "Чаму мы не хочам чуць тых, хто дзеля нашага дабра рабіў усё, каб мы вольна пачуваліся ў роднай старонцы, каб любілі і шанавалі ўсё сваё роднае, блізкае, беларускае.

Давайце яшчэ і яшчэ раз паслухаем тыя заклікі нашых славутых, вялікіх беларусаў і задумаемся.

Пачнём з Мацея Бурачка. З вялікага беларуса Францішка Багушэвіча. Хто не ведае яго "Бог не роўна дзеле", "Дурны мужык, як варона", "Кепска будзе"... Вялікі і славуты сын беларускага народа ўсё сваё жыццё прысвяціў барацьбе за лепшую долю беларуса, зваў яго да волі і свабоды. Ф. Багушэвіч, звяртаючыся да братоў-беларусаў, мольна прасіў: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!" Чаму гэты кліч не даходзіць да большасці беларусаў і ў першую чаргу да ўлады, да кіраўнікоў нашай краіны? Адказ можа быць толькі адзін: і людзей, і ўладу апанавала глухата. Усякую хваробу неабходна лячыць. Толькі дзе тыя дактары? На гэтае пытанне таксама ёсць адказ. Але гэты адказ патрабуе, каб кіраўнічыя вяркі краіны адчулі сябе беларусамі, каб адчулі адказнасць за лёс беларускага народа, за лёс Бацькаўшчыны. Трэба знайсці і ліквідаваць прычыну, з-за якой узнікла хвароба, і хвароба знікне сама па сабе. Людцы добрыя, пачуйце мудрага Мацея Бурачка!

А вось што сказаў класік беларускай літаратуры Максім Багдановіч, якога народ назваў Максімам Кніжнікам. *"Беларусы! Мы вялікі народ, нас 12 млн., шырока раскінуліся мы і спрадвеку жывём тут. Гэта наш край, наша старонка. Калісьці ў нас было сваё гасударства, скрозь чутно было нашу беларускую гаворку. У ёй пісаліся законы, разбіралі справы па судах, вучылі ў школах, друкавалі кнігі, спраўлялі набажэнствы ў цэрквах... І ўсе размаўлялі па-нашаму: і чыноўнікі, і паны, і вялікія князі, што правілі гасударствам. Не пакіньце свае гаворкі, сваіх песняў, сваіх звычаяў - свайго кроўнага, спрадвечнага, беларускага"...*

І што мы маем сёння? На мове беларускай не гавораць ні чыноўнікі, ні паны, вялікія князі не мовяць па-беларуску. Імі забыта ўсё кроўнае, спрадвечнае, беларускае. А што народ? Ён смела ідзе туды, куды вядзе ўлада і кіраўніцтва краіны. Што яму Максім Кніжнік са сваімі заклікамі і зваротамі? Баюся, што пра іх народ у шэрай масе сваёй і не ведае.

У Максіма Багдановіча, не гледзячы на тое, што амаль усё сваё кароткае жыццё пражыў у Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўлі, балела душа аб радзімай старонцы. Ён сам не адрокся ад беларускай мовы, не кінуў яе на глум і здзек. Шанаваў усё беларускае, бараніў ад гібелі родную мову, культуру беларусаў і гераічную гісторыю Бацькаўшчыны. І клікаў усіх беларусаў шанаваць і любіць, берагчы і перадаць у спадчыну дзецям і ўнукам наша роднае слова, беларускую мову, якая з'яўляецца падмуркам беларускай нацыі.

Са сваімі палымянымі словамі звярталіся да беларусаў вялікія Купала і Колас, Броўка і Танк, Мележ і Шамякін, Караткевіч і Быкаў, Барадулін і Бураўкін... І ўсіх немагчыма нават пералічыць. Але, на вялікі жаль, іх не хоча чуць ўлада і кіраўніцтва краіны.

*Уладзімір Гук, г. Пінск.*

# Новы Запавет па-беларуску




У менскім выдавецтве "Пазітыў-цэнтр" 3000-м накладам з друку выйшаў "Новы Запавет" Госпада нашага Ісуса Хрыста. З грэцкай мовы на беларускую Новы Запавет пераклаў вядомы літаратар Анатоль Клышка.

Нашаму карэспандэнту перакладчык сказаў, што пераклад рабіўся з памяццю аб запавеце з амаль пяцісотгадовай даўніны нашага Францыска Скарыны - "з великою пильностью", з увагай да кожнага верша, да кожнага слова як надзвычайнага дакумента.

"Сучаснаму чытачу праз без мала два тысячагоддзі не заўсёды лёгка зразумець пэўныя звароты ці асаблівасці мовы або рэаліі быту, што выклікае патрэбу ў пэўных каментарыях, але пераклад Новага Запавету павінен быў быць асабліва дакладным. Таму ў дужках я вырашыў падаваць і асобныя словы ці словазлучэнні, якія дададзены ў пазнейшых рукапісах грэцкага Новага Запавету, але якіх не было ў найста-ражытнейшых", - сказаў Анатоль Клышка.

*Барыс Баль,*
*Беларускае Радыё Рацыя, Менск.*




## Ахвяраванні на ТБМ

1. Лягушаў Алег - 100 000 р., ст . Ясень, Асіповіцкі р-н
2. Піскуновіч Міхаіл - 100 000 р., в. Ломач, Полацкі р-н
3. Касцюкевіч Зміцер - 100 000 р., г. Чэрвень
4. Давідоўскі Ігар - 100 000 р., г. Менск
5. Пухоўскаят Юлія - 100 000 р., г. Менск
6. Гаева Ала - 50 000 р., г. Менск
7. Рамаюк Тацяна - 100 000 р., г. Менск
8. Восіпава А.Е. - 100 000 р., г. Гомель
9. Фурс Антон - 100 000 р., г. Паставы
10. Мануленка Уладзімір - 100 000 р., г. Берасце
11. Філіповіч Станіслава - 1 018 000 р., г. Менск
12. Сям'я Дзям'яненкаў - 200 000 р., г. Менск
13. Краўцоў Мікола - 200 000 р., г. Гомель
14. Лабыка Зміцер - 200 000 р., г. Менск
15. Панамароў Сяргей - 100 000 р., г. Менск
16. Грышкевіч Л. - 50 000 р., г. Менск
17. Рагоза Д. - 50 000 р., г. Менск
18. Шкірманкоў Фелікс - 100 000 р., г. Слаўгарад
19. Нурава Т.А. - 50 000 р., г. Менск
20. Стралко В.В. - 50 000 р., г. Менск
21. Невядомы - 200 000 р., г. Менск
22. Прылішч Ірына - 50 000 р., г. Менск
23. Навуменка Валянціна - 200 000 р., г. Менск
24. Маркевіч Вера - 100 000 р., г. Барысаў

Наваполацкая суполка:
25. Рымша Алесь - 250 000 р.
26. Фарнэль Кастусь - 50 000 р.
27. Кулік Анатоль - 50 000 р.
28. Рындзевіч Вячаслаў - 100 000 р.
29. Гняткоў Валеры - 80 000 р.
30. Паўловіч Віктар - 80 000 р.
31. Гацкі Уладзімір - 80 000 р.
32. Мудроў Алег - 80 000 р.
33. Шэвяка Аляксандр - 80 000 р.
34. Пісарэнка Алесь - 50 000 р.
35. Пожанька Ігар - 50 000 р.
36. Сідараў Сяргей - 100 000 р.
37. Цвяцінскі Антось - 50 000 р.
38. Кунцэвіч Уладзя - 100 000 р.

Дзейнасць ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас, вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ №3015741233011 у Аддзяленні № 539 ААТ "Белінвестбанка" код 739 (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк.

Паведамленне

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015741233011 Асабовы рахунак 739
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні ТБМ | на дзейнасць | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Касір
Пеня
Разам
Плацельшчык

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015741233011 Асабовы рахунак 739
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні ТБМ | на дзейнасць | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Квітанцыя
Касір М.П.
Пеня
Разам
Плацельшчык



№ 2 (1205) 14 СТУДЗЕНЯ 2015 г. Наша слова

*5 студзеня 2015 года Мікалая Мікітавіча Слюнькова чарговы раз паклалі ў бальніцу. 85-гадовы лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, Герой Сацыялістычнай працы, былы Першы сакратар ЦК КПБ, сакратар і член Палітбюро ЦК КПСС, мае патрэбу ў лячэнні вачэй. У гэтыя Каляднія, навагоднія святыя дні аўтар прапанаваў раздзел пра М.М. Слюнькова з свайго чарнобыльскага рамана. Спадзяецца, невядомыя дасюль старонкі пра дапамогу славутаму хрысціянскаму храму зацікавяць чытачоў.*

***Валер Санько***

# Святло Нясвіжскага фарнага

Быць у Нясвіжскім раёне і не паглядзець славуты замак - нядобра. Быць у Нясвіжы і не падысці да велічнага фарнага касцёла - незразумела. Перад абедам Мікалай Слюнькоў сказаў раённаму начальству: варта паглядзець касцёл і замак.

Імправізаванае наведванне не было ўключана ў рэгламент паездкі кіраўніка рэспублікі. Парушэнне распарадку. Нічога не зробіш, першы сакратар ЦК КПБ даўно ўжо рэгламенты зацвярджае сам.

- За гадзіну абернемся?

- Можна за дваццаць хвілінаў.

- Не за дваццаць, дык за трыццаць, - шырокім жэстам гаспадара Слюнькоў запрашае двух нясвіжцаў у шыкоўную чорную "Чайку". За ёю паедуць яшчэ дзве "Волгі".

Такое не прыдумаеш. Ксяндзу Рыгору Каласоўскаму талкуюць пра ўзнагароду, асабіста яму, як на днях гаварыў і старшыня Саўміна Беларусі Кавалёў, а ксёндз працягвае гаварыць пра другі паверх касцельнага дома па вуліцы Міцкевіча, 5.

- Нашыя два дамы, адвеку. Гарвыканкам забраў шмат у касцёла, адзін дом поўнасцю, у другім - адзін паверх. Цяпер забірае з двухпавярховіка на вуліцы Міцкевіча той паверх. Слугі храма павінны жыць блізка ад яго, так усюды, стагоддзямі, - манатоніць ксёндз роўна, ціха.

На верхнім паверсе дома па вуліцы Міцкевіча з сем'ямі жылі арганіст, закрыстыян, вартаўнік касцёла. Састарэлы арганіст Іван Петрашкевіч у пачатку лістапада сёлетняга года, чарнобыльскага, пераехаў да дочак у Мінск. Ксёндз Каласоўскі папрасіў гарадскія ўлады, з якімі заўжды былі калі не ўзаемапаважныя, то нейтральныя адносіны, каб у вызваленую кватэру пасялілі сям'ю новага арганіста. Абодва адказы з гарвыканкама адмоўныя. У другім, за подпісам старшыні Жука, паведамілі: для будаўніцтва доміка для касцельных працаўнікоў выдзяляюць пляц непадалёк ад храма. Будуйцеся. За грошы вернікаў і асабістыя.

- Ніхто не ведае, куды дарога і Бог выведуць чалавека… Высяляць касцельнага вартаўніка нягожа. Просім, пакіньце нам другі паверх. У нашым доме.

Ксёндз пранізліва ўзіраецца ў вялікага начальніка, ні слова пра пакаранне вінаватых, былых, сённяшніх.

У групы мужчын у дзелавых строгіх гарнітурах ні шэпту.

- Прапанавалі вызваліць астатнія дзве кватэры… Прыбліжаюцца тры юбілейныя для мяне даты - пяцьдзясят гадоў служу ў храме, пяцьдзясят гадоў маёй службы ксяндзом, пяцьдзясят гадоў працую ў Нясвіжы. Аплата маленька. У супрацоўнікаў тож.

Блакітныя ўдумныя вочы прысадзістага шыракаплечага ксяндза блішчаць, страляюць, зажурботнены прамаўляе вынашаным, лозунгамі. Нясвіжскі фарны - лепшы на Беларусі. Раённыя начальнічкі перад ім снег, прыйшоў, пахаладзіў, знік. Ні следу, ні зыку. А касцёл з 1584 года стаіць і стаяцьме вечна. Даўней рабілі не раўня цяперашнім умекам, хуткім на будоўлю, а потым на планавыя нясконцыя рамонты.

Павучанні ў храмах, касцельнае і царкоўнае добрае слова памагае сем'ям і нацыям болей, чым выскалянне і паспешнае выхаванне камуністычнымі і савецкімі прапагандыстамі. Мясцовым самаўпраўцам няма ўпыну. Перабудова ўверсе, у гарадках і вёсках усё тое ж, пыл, застой, бачнасць руху.

Шмат, вельмі шмат начальнікаў прабегла ў Нясвіжы за апошнія пяцьдзясят гадоў. Адзінкі запамяталіся справядлівасцю, разумным гаспадараннем на старажытнай зямлі з рабацяшчымі памяркоўнымі людзьмі.

Сёлета бліз касцёла ўздумалі ладзіць аўтастаянку, пракладваюць дарогу. Шум, газы, гул, вокрыкі ў месцы, куды чалавек прыйшоў ачысціца душою, падумаць пра сябе, вечнасць, Бога.

- Пагадзіннікі і арандатары лепш паводзяцца, чым асобныя райкамаўцы і выканкамаўцы. У іхніх сэрцах ні Бога ні камунізму.

Як ні паварочвай выбалеласць слоў Каласоўскага, іх шырокую логіку чуваць усім. Крыўда Нясвіжскага фарнага - крыўда ўсіх прыхаджанаў, што ходзяць сюды.

- Пацерпіць храм, знікне, наш ці праваслаўны, навальваюцца беды на тую зямлю, - фаталістычна аналізуе і прарочыць настаяцель. - Хто адвучваў чалавека ад веры, сям'і, сумленнай працы - панізіцца, Там і тут. Разбяруцца ў немарачным, Там і тут. Знізіцца. На месцы застанецца, вечна будзе апраўдвацца, вызуджванні за паслугацкую праўду не памогуць, - позірк на кіраўнікоў райкама, райвыканкама. - У каго душа і вера, павінны нам памагчы. Святая справа. Наш храм - гонар нацыі беларускай.

Пераглядванні.

- Прымас Польшчы кардынал Глембп наведваў нас, вось тут, у фарным, службу правіў. Фінансамі дапамагчы палякі не могуць, бедныя…

Словы, фразы цякуць ад дзеда самі сабою, інстынктыўна. Голас перапыняецца, ціцшэ, жывее, мацнее. Ім патрэбны другі паверх, хоць другі паверх. Абодва дамы забралі несправядліва, па-савецку… Зрабілі камунальнымі, у адным, на другім паверсе, дазволілі жыць тром нашым сем'ям. Без памочнікаў ніводны храм не можа працаваць. Ксёндз не заўважае паўтораў выказванняў.

- Вы здзейснілі подзвіг, выратавалі такі храм, асабіста вы, Рыгор Вікенцевіч, - словы кіраўніка рэспублікі Мікалая Слюнькова выпавольваюцца з гучнасцю.

- Наш храм не проста ўсесаюзнага значэння - еўрапейскага.

- Сусветнага, мы ўжо разумеем, - развівае думку ксяндза Каласоўскага сакратар Слюнькоў. - Каб вы не былі ксяндзом, атрымалі б вялікую ўзнагароду ад дзяржавы, паўтараю, вялікую. Заслужылі.

- Не трэба ўзнагарода дзяржавы мне, лепей ад рэспублікі падзяка касцёлу, - смялее ксёндз, усміхаецца. - Не забірайце наш паверх у апошнім нашым доме.

… Увойну немцы загадалі здаць рэйху ўсе каляровыя металы, у тым ліку трубкі аргана, званы. Ксёндз Каласоўскі раздабыў даведку, што трубы і званы здалі Саветам у чэрвені, перад адыходам Чырвонай Арміі.

- Калі б немцы даведаліся, што мы іх ашукалі, закапалі ўсё ў зямлю, мяне і чалавека, які выдаў даведку на заханаваным савецкім бланку, з пячаткай, адразу расстралялі б, - хвілін колькі таму прамаўляў Каласоўскі пры экскурсаванні высокаму госцю, свіце. - Тым болей, я ўжо сядзеў шэсць тыдняў у нямецкай турме.

Усе плятуць, гітлераўцы спаважна ставіліся да рэлігіі, рэлігійнікаў.

Менавіта. Плятуць. Недамыслікі. Пры сустрэчы на вуліцы не пакланіўся нямецкім афіцэрам, гэтага стала дастаткова, не шаную немцаў. У турму.

Каласоўскі не мае часу сказаць, што перад канцом вайны яго зноў гітлерцы важыліся расстраляць. Выратаваў ксяндза ад смерці нясвіжскі праваслаўны поп, некалькі дзён хаваў у царкве.

… - Паўтарыце, калі ласка, пра дах.

- Праўду казаць можна? - падае голас манахіня-сястра ўзбоч настаяцеля.

- Толькі праўду.

Жанчына няўлоўным рухам супыняе ксяндза. З упэўненасцю перакананай паведамляе: цяпер усе дзяўбуць, немцы падпалілі касцёл. Не ўся праўда. Савецкія самалёты і артылерысты білі. Касцельніца ў чорным збаялася ўласнай адвагі, спасылаецца на вайну: вайна падпаліла касцёл.

Накіпела ў душы Каласоўскага ад прычыненых няпраўдаў самому, яшчэ болей ад крыўдаў і болю фарнаму касцёлу. Рашучасць, што ачынаецца ў душы сапраўднага праўдалюбца ў адчайную хвіліну, валодае Каласоўскім:

- З-за сябе так не шчымела сэрца, - прысадзісты лысаваты чалавек з прыемным маршчыністым тварам знізвае блакіт галоўнага суразмоўцы, світу, двух плячысціцкаў наводдаль. Блакіт воч на блакіт воч.

- Не ведаеш, як Бог распарадзіцца, куды дарога выведзе. Вас сёння Бог сюды прыслаў.

Урачыстыя гожыя постаці на велічных звонкіх фрэсках сцен і сферы купала пацвярджаюць чутае, бадзёраць прысутных, жывяць нітку субяседдзя.

- Дах выгараў датла, ніхто не мог тушыць. Стральба, з абодвух бакоў. - Ксёндз раздумна падбірае словы. - Нясвіжчына, слава Наймагутнаму і Найдобраму, меней пацярпела, але рамантаваць касцёл ніхто не мог. Не было жадання, матэрыялаў, рабочых, крыхаў аплаты… Восеньскія дажджы, залевы, снег, маразы… і прыгажосці фрэскаў ніхто не бачыў бы, знікла б, растварылася. Як у многіх храмах, савецкіх.

Ксёндз і вернікі знайшлі інжынера, адмысловага ў праектаванні і аднаўленні дахаў, па здымках ён і Каласоўскі аднавілі праект абрынутага даха. Жыхары Нясвіжа і вёсак, каталікі, уніяты і праваслаўнікі, так-так і праваслаўнікі, у вячэровы час і выхадныя да сёмага поту аднаўлялі дах. Новай бляхі не расшукалі, скарысталі гарэлую, перамятую.

Мясцовы люд і прыезджы, ваенныя і цывільныя дзівіліся - спалены важкі дах пры падзенні не парушыў фрэскі цэнтральнай сферы, сцен. Не меней дзіваваліся раённыя і ваенныя ўладаўцы другому здзейсненаму на вачах цуду - без праекту і плану, па здымках, рымска-каталіцкай грамадзе Нясвіжчыны ў ліхалетны час стральбы і рабункаў 1944 года ўдалося аднавіць дах, сцяну. Да зімы ўправіліся. Пасля ў энцыклапедыях напішуць, што храм аднолены ў 1944, ні разу не ўзгадаюць, хто гэта зрабіў, якімі высілкамі, за чые сродкі.

- Ездзіў па вёсках, збіраў прадукты, каб хоць як разлічыцца з рабочымі. Інжынер быў прарабам на будоўлі, я дарадцам. За тры з паловай месяцы паставілі кроквы, пакрылі фарны старою бляхаю, другой не было… Прыязджалі архітэктары пасля, не верылі аднаўленню цюцелька ў цюцельку, вымяралі…

- Шпілі свецяцца з далідальняй…

- Праз гадоў колькі касцёл перакрылі ацынкаванкаю. Сабор пятнаццатага стагоддзя, кажу пра задуму і пачатак будовы. Гістарычныя і мастацкія каштоўнасці ў нас раскрадалі, вывозілі. Шведы, потым двойчы рускія. Савецкія таксама… аднімалі. Засталыя каштоўнасці захавала не ўлада. Славім Бога, у нашы справы пасля яна моцна не ўлазіла, нейтраліла. А зараз рабуе, у лепшыя часы.

- На якой мове ідзе служба? - Старшыня райвыканкама Мацвей Жук пнецца ўесці пальшчызну, хоча дапамагчы вялікаму беларускаму начальніку.

- Беларускай. - Пераглядванні. - Зрэдку польскай.

- А на рускай? - Слюнькоў сходу раскеміў логіку Мацвея Жука.

- Не, - адказвае жанчына ў чорным.

- Можа, варта і на ёй.

Узаемапераглядванні зацягваюцца.

- У нас было разоў колькі. Цяпер няма і не будзе.

- Чаму? - Нявінна пазіраюць на касцельніцу і ксяндза Слюнькоў, світа, нясвіжскае начальства.

- Калі хоць у якой царкве Нясвіжчыны і Міншчыны пойдзе служба на польскай, тады ў нас будзе на рускай. - Сагненага дзеда Каласоўскага няма, ёсць вялікі настаяцель вялікага храма, дзяржаўны дзеяч.

Старшыня райвыканкама шэпча ў шаноўную світу; раён турбуе жыллё, жыллё, і будаўніцтва паліклінікі, школы.

- Плануйце, будуйце. - Слюнькоў пачуў першапэты. - Чужое забіраць… непрыстойна. Перабудова не вучыць адбіраць, хоць у каго. - Павышаным тонам. - Не чакайце камісіі. Нашай, цэкоўскай.

Супыніўся з дарогі да дзвярэй, раённым начальнікам:

- Я беларус, праваслаўны. Хрысцілі дзіцем. На Рагачоўшчыне не пшэкаюць, касцёлаў няма. - Удых, выдых. - Закон ёсць цяпер, закон будзе ў любой будучыні, не адкладваюць парадак і закон назаўтра. Не дапусцім нестыкоўя сёння, не будзем выпраўляць заўтра, - рашучасць тону і выхілкі ў сакратара Слюнькова, як пры абмеркаванні на Саўміне СССР прапановы дырэктара МТЗ Слюнькова.

Хвілін колькі таму на пытанне пра ўзнагароду нятумкі ксёндз Каласоўскі практычна нічога не сказаў, талкаваў пра касцёл. Першая асоба рэспублікі трэці раз пацікавілася:

- Якую ўзнагароду хацелі б сабе асабіста. Якая ў сілах рэспублікі - граматы, прэмію? Легкавік? Знойдзем спосаб не пакрыўдзіць закон.

Трэці раз няпетраны ксёндз Каласоўскі адказаў аднолькава:

- Вярніце, просім, моцна просім, наш паверх у нашым доме. Дзве сям'і высяляюць, новаму арганісту няма дзе жыць.

На добрым прыемным твары святара хмурына. Малітоўна склаў рукі.

- Прашу. Калі ласка, прашу вас. Усіх.

Мікалай Слюнькоў паварочваецца да старшыні райвыканкама:

- Прынялі ўжо рашэнне?

- Двойчы. - Рэзкія сузіркі валявых людзей. - На бюро райкама абмяркоўвалі.

Мікалай Слюнькоў знізвае Мацвея Жука позіркам удава на жабу.

- У аблвыканкам і Маскву ад касцёла былі тэлеграмы. Пайшлі ўсюды заявы і ад працоўных - не даваць касцельным паверх. Многія нясвіжцы без жылля, дзесяцігоддзямі па шэсць чалавек у пакоі, чарнобыльскіх перасяленцаў няма куды сяліць, - прамаўляе Жук.

Дрыжаць, дрыжаць вочы дзеда Каласоўскага. Трэ павекі першы сакратар ЦК КПБ; яркая валявая сінява знікае з выблакітненай сінечы святара, дрогкай, просьбітнай.

- Засяленне?

- На тым тыдні. Мяркуем, - хуценька паведамляе першы сакратар райкама партыі.

- Устрымайцеся. Раю ўстрымацца. - Імклівы разварот да ксяндза, гучней: - Зможаце заўтра паслаць заяву…

- Просьбу, ніжайшую просьбу…

… - заяву на маё імя. І старшыні Саўміна Кавалёва?

- Завязём. Сёння. Сам паеду. У два адрасы аддамо.

- Сёння не паспееце. Заўтра. - Мякка, зусім мякка азірае старога настаяцеля.

- Заўтра, зранку. Сам павязу.

- Вам далёка ездзіць можна? - Слюнькоў блізіцца да настаяцеля. - У заяве спашліцеся, ойча, на гэтую размову, сённяшнюю.

Астатнім са світы:

- Навошта выпраўляць брак, лепей не дапусціць. Дом на Міцкевіча хто будаваў? Чый ён? Хопіць дзяліць чужое.

Пераказаў бы хто чутае і бачанае сёння ў Нясвіжскім касцёле - не паверылі б атэісты і вернікі. Самы вялікі тытулам атэіст бязбожнай партыі бязбожнай рэспублікі ў бязбожнай дзяржаве заступіўся за касцёл, уважыў настаяцеля храма Рыгора Каласоўскага. Перамаўляўся з ксяндзом не кіраўнік рэспублікі - малодшы чалавек з старэйшым.

Ужо на першых этапах падыходу да дырэктарства на Мінскім трактарным Мікалай Мікітавіч Слюнькоў засвоіў: кожнае яго слова і жэст, выдых і жаданне доўга талкуюцца і ператалкоўваюцца ўверсе і ўнізе. Быў смелым. Выдатна асягаў месца нечаканай цяперашняй сустрэчы з нечаканым святаром, пачутыя і выказаныя словы. Велічнасць храма, абразоў, фрэскаў змусілі кіраўніка на веліч рашэння.

Прайшла паўгадзіна, Мікалай Слюнькоў усё яшчэ ў фарным. Канца агледзінам не відно. Ніхто не асмельваецца перапыніць размову, абход.

Усю кавалькаду прыезджай і мясцовай світы ў сховішча пад касцёлам не пусцілі. Усе семдзесят радзівілаўскіх саркафагаў надзейна захоўваюцца, у халадзіну лістапада заіраць у падзямелле не рэкамендуецца.

Пры выхадзе з касцёла да Мікалая Слюнькова плыве ксёндз Рыгор Каласоўскі. Кланяецца, кланяецца.

- Не трэба, прашу. Вы храм шаснаццатага стагоддзя выратавалі, гонар краіны. Вам трэба дзякаваць, - перапыняе чарговы нізкі паклон настаяцеля Слюнькоў.

У невялічкай гурмачцы дзяўчат і хлопчыкаў бліз касцёла выгалас дванаццацігадовай дзяўчынкі. Спытае яна, усё роўна спытае. Янінка вытузваецца з рук маладой жанчыны ў паношанай дублёнцы.

- Ну скажы, Яня, спытай, - Слюнькоў неўздалёк ад чорнай "Чайкі" запыняецца. Падбадзёрвае разгубленую смялячку.

- Вы, праўда, начальнік?.. І нясвіжскіх начальнікаў?..

- Трохі начальнік, - весялее Слюнькоў. Просіць настаўніцу не асаджваць дзяўчо.

Кідкая металічная табліца на храме грозна ўсіх папярэджвае: касцёл - дзяржаўная каштоўнасць, за яго пашкоджванне - пакаранне.

- Сапраўды начальнік?

- Крыху сапраўды.

- Пане Гжэгаш, я скажу. Пане Гжэгаш, - дзяўчо баіцца самастойніць далей.

Ксёндз асцярожна памоўчвае. Дзяўчо перапытваецца ў крыху сапраўднага начальніка: выказануць ці не.

- Выказані, выказані.

- Калі ласка, хоць трошачкі супыніце тую ляскаўку. - Дзяўчынка Яня паказвае на аўтастаянку. - Там гуду шмат. Дзядзькі, там дзядзькі… лаюцца… брыдкімі слоўмі.

Кавалькада не села ў дзве "Волгі" за "Чайкаю", усе дыбаюць за расхмараным Слюньковым.

Дарога так блізка ад храма ніколі не ляжала. Аўтамабільнай стаянкі тут не было. Хто канкрэтна распарадзіўся ўляпваць сюды аўтастаянку, адказаць Слюнькову нясвіжцы не могуць. Самыя вялікія нясвіжскія начальнікі ўвоміг сталі маленькія, невінаватыя, не памятаюць, ім трэба паднімаць паперы.

- Архітэктары і планавікі ўзгаднялі пракладку дарогі з інстытутам горадабудаўніцтва ў Мінску. Чыя ініцыятыва… будзем разбірацца, - спрабуе доказніцца Мацвей Жук.

- Паможам вам разабрацца мы! - Ярасны позірк Слюнькова пячэ многіх. Досыць выклікаць бэрслівыя ўсмешкі прыхажан, нашых савецкіх людзей, за бяздумныя дзеі пагадзіншчыкаў, чые рашэнні не вытрымліваюць праверкі на працягу дзвюх-трох пяцігодак, не гаворачы пра стагоддзе. - Праз тыдзень персанальна вы, падкрэсліваю, вы, паведаміце цэнтральнаму камітэту, ці на месцы ў вас галоўны архітэктар. Пра ўзнагароду праекціроўшчыкаў бязглуздзя з аўтастаянкай не забудзьце.

Мікалай Слюнькоў усё жыццё патрабавальны чалавек, на любых пасадах. За перавагу грама праўды ў вялікай ці малой жыццёвай сітуацыі выдасць непавароткаму і вінаватаму кілаграм рэзкіх слоў, дэпрэміруе, панізіць пасадаю. Ён часта выглядаў грубым у вачах падначаленых менавіта з-за гэтага.

- Ясна кажу? - гнеўна.

Абсалютна ясна, нявыказанае распетрылі ўсе. Трохі начальнік з Мінска хваліць дзяўчынку Янінку. Вераемна, нясвіжскім таварышам удасца ўлічыць яе невялічкую просьбу, аддаліць аўтастаянку і дарогу ад храма, паабяцалі, чуеш, паабяцалі.

Мала можа зрабіць любы вялікі начальнік супраць цемры і бязглуздзя дробненькіх начальнічкаў у далёкіх вёсках і гарадках, якія абавязкова па-свойму зразумеюць пачутыя і прынятыя ў інструкцыях і выступленнях ідэі. Надаўся выпадак, у адным месцы хібу выправіш, у дзясятках і сотнях не ўбачыш. Як ускалыхнуць інертнасць жыцейскага балота, Мікалай Слюнькоў не асягаў. Разумеў другое, ён будзе радавацца, што наведаў адзін з старэйшых храмаў Беларусі, прыгожшы за многія ў Еўропе, у якім святарніць святы чалавек.

- Будзем маліцца за вас, - падыходзіць да "Чайкі" Рыгор/Гжэгаш Каласоўскі.

Небаязлівы Слюнькоў цішэць, хаця не зніжае голас на шэпат: ён сам хацеў прасіць пра гэта. Хаця праваслаўніку выказваць такое каталіцкаму святару не з рукі. Усе ўсміхаюцца. Высознае чыстае святло Нясвіжскага фарнага касцёла авінула ўсіх. Любы храм заўжды кранае людзей, весціць іх вачам; не ва ўсіх глыбіць душэўнасць.

- Бог не дзеліць па канфесіях. Па справах - багаверных, ужыўных, - таксама цішыць Каласоўскі.

І не было зразумела, хто прасіў, памагаў, прычашчаў вачмі і рухамі.

- У раёне цяжка, разумеем. Адсяленцы з чарнобыльшчыны едуць. Жылля не стае, разумеем. Усё-такі просім, памажэця, - прамаўляе Каласоўскі на праводзінах.

Хто каго павінны сёння шкадаваць і разумець, заўсёды вытрыманы і дзелавы Мікалай Слюнькоў сэрцам чуе, не чуе. Ашаломлены справаю прадкаў, славутых Радзівілаў, малавядомага, шырокай душы святара Мікалай Слюнькоў хіліць постаць перад веліччу застылага дзеда Каласоўскага, вымаўляе патрэбнае храму, ягоным служкам:

- Вызначымся станоўча, думаю, хутка. У Саўміне сённяшнюю размову пачуюць.

- У храме маліцьмуцца за вас, - ціхенька вышэптвае жанчына ў чорным.

- А як жа.

Ксёндз Каласоўскі не плача, у яго проста так скрывіўся твар, заўздрыгвалі плечы, нізіцца галава. Рыгор Каласоўскі не перажывае, не-не, не перажывае. Слёзна вышэптвае:

- Матка свента незабыўна, нікім не пераможна, дзякую.

Вера ў сілу і магутнасць Усебачнага, Найдобрага, Усемагутнага праяўлялася ўсевідавочна, чарговы раз, ксёндз працягвае вышэптваць:

- Хвала Богу, хвала.

Колішняму рамесніку Мікалаю Слюнькову нечакана адкрыліся новыя лісткі кнігі дрэва. Чалавек радаваўся, сёння (не ведаў сам) ён стаў пяром яго вялікасці лёсу, іглою ў Ягонай руцэ.

Рэзкі, часта напраломны ў барацьбе за дысцыпліну і планы Мікалай Слюнькоў вучыўся хутка. Удзячыўся, літаваў, справядлівіў. Дараваў хібы/промахі малым і вялікім, асаблівa выпадковыя, бессвядомыя, папраўныя. Сабе прасіў у Бога аднаго - доўгіх гадоў, аб'ектыўнасці пры разборах зваленых на невінаватую Беларусь тысячаў чарнобыльскіх праблемаў.

Лёс вядзе, выпадак выбірае, ва ўзаемаўзгодненні рухаюць выбранца ўперад. Неба і абставіны, пакуты і дабрачнасць прадкаў дапамагаюць, - могуць шкодзіць. Перад Генсекам Міхаілам Гарбачовым праходзяць анкеты і постаці чатырох ахоўнікаў. Трэба выбраць аднаго ў асабістую ахову, на замену. Усе рослыя, статныя, без хмурынкі ў анкеце.

Лысы, з вялікаю радзімнаю плямаю Гарбачоў выбраў сходу. Лысага.

Слюнькоў і нясвіжскія субяседцы ведалі, праца і абставіны накіроўваюць, але не ведалі, што надта часта выпадак выбірае, памагае ці шкодзіць лёсу. Калі паклалі на лёсавагі біяграфіі станоўчых раўназначных людзей, Гарбачоў аддаў перавагу чалавеку з вялікаю радзімнаю плямаю на скроні: сакратарам - Слюнькова.

Не было лепшых? Былі. Выбралі яго, беларускага інжынера, дырэктара, сакратара, выдатнага прамоўцу на чарнобыльскім абмеркаванні.

Многія жыццёвыя ўпэўненцы, нечакана займелыя грошы, пасады, поспех, не ўлічваюць збег усіх выпадковасцяў, не выдзякваюць пастаянна Богу, генам, лёсу, не бачаць і не ацэньваюць адважнікаў - і надта хутка жнуць расплату. Як і кожны, хто забыў, што не дадзена аднаму ўвесь час толькі раскашаваць, вызначаць, прасіць, душыць. Кожны з можных павінны прымхліва памятаць: ён не так сабе атрымаў сілу і могу весці чужых лёсы, сам (і радня) на ігле лёсу. Чуйца павінны не проста праймацца болем іншага, ён абавязаны найперш падтрымваць стваральныя дух, справы. Падтрымваюць таго, хто чуе і рухае не адно сябе і блізкіх, пакутуе не толькі для сябе і блізкіх - для іншых, а пашанцуе - для горада, дзяржавы, чалавецтва.

Многія вылучэнцы і заможнікі, як беднякі і вечныя просьбітнікі, забылі: трэба не адно моцна працаваць - неабходна ўмець літаваць, удзячыцца. Найперш Яму. Неабходна самому плакаць, чуць слёзы іншых.

Пройдзе некалькі месяцаў пасля нясвіжскай сустрэчы, Мікалая Слюнькова забяруць на працу ў Маскву сакратаром ЦК КПСС, праміне год - пад партрэтамі члена Палітбюро ЦК КПСС Мікалая Мікітавіча Слюнькова ў вітальных калонах на дэманстрацыях будзе хадзіць увесь гмаххі Савецкі Саюз. Нясвіжскі раён таксама.

У душы гэтага чалавека зыркімі вогнікамі час ад часу ўспыхваюць уражанні ад нечаканай далёкай сустрэчы ў фарным касцёле, просьбачкі невядомай дзяўчыны Яны.

Не-не, ды і ўспомніцца вялікаму кіраўніку, беларускаму і савецкаму дзяржаўнаму дзеячу Слюнькову малітоўныя словы непрыкметнага святара Нясвіжскага храма Каласоўскага - "мы будзем маліцца за вас, будзем маліцца".

# "Дзяльба кабанчыка" ці " З вясной у адным вагоне"?

Восенню мінулага года мне патэлефанавала хросная дачушка, васьмікласніца Галінка, і папрасіла падказкі ў напісанні сачынення-разважання па апавяданні Віктара Карамазава "Дзяльба кабанчыка". Мы пагаварылі, я ёй патлумачыла некаторыя моманты, і яна пабегла ў бібліятэку, каб вывучыць тэкст. Стоп! Такога не было. Мы пагаварылі... Мы пагыбіліся ў вывучэнне тэксту.

У апавяданні расказваецца пра звычайны для вясковага жыцця эпізод - дзеці прыехалі ў вёску да маці "на свежыну". Маці вырасціла, выпеставала трох дзяцей: Веру, Ніну і Сцяпана. Усе яны добра ўладкаваліся, жывуць у горадзе, не адчуваюць сябе беднымі, а дапамагае маці толькі адзін Сцяпан. Аднаму Сцяпану няёмка, што маці ўсё мяса аддае ім, а сабе нічога не пакінула.

Апавяданне выклікала ў меня розныя пачуцці. Пераважала абурэнне, навошта гарадскім дзецям, якія не так часта на вёсцы бываюць, чытаць старонкі з натуралістычным апісаннем падзелу вантробаў кабана, ад якога можа і адвярнуцца. Кніга з аднайменнай назвай выходзіла ў 1986 годзе, апавяданне было напісана яшчэ раней. Трыццаць гадоў мінула, змяніўся побыт і светаўспрыняццё школьнікаў сярэдняга ўзросту.

Думалася, няхай бы дзеці пачыталі апавяданні Уладзіміра Арлова "Мой радавод да пятага калена…" ці "Маналог святога Пётры" ці адрывак з кніг Вольгі Іпатавай "Прадслава", " За морам Хвалынскім", "Альгердава дзіда".

Але мая Галінка не разгубілася: "Ведаеце, у мяне такая думка: кожны чалавек павінен прыязджаць у тое месца, дзе ён нарадзіўся, хаця б раз на год. Нават гэта яго абавязак - сустрэцца з роднымі людзьмі, тымі, хто яго ўзгадаваў, з суседзямі, з кім ён жыў ці вучыўся." "Малайчына, Галінка! Так і напішы ў сваім разважанні!"

Сёлета мне патэлефанавала маці Міхася з той жа просьбай. "Чуеш, на сходзе папрасілі менавіта бацькоў напісаць сачыненне-разважанне па апавяданні". "А што думае сам Міхась?"- запытала я. "Ён кажа, што гэта апавяданне пра спажывецкае стаўленне дзяцей да бацькоў, бо яны прыязджаюць толькі тады, калі трэба дзяліць ураджай бульбы, агуркоў ці на падзел кабана."

Міхась - добры і сур'ёзны хлопчык, ён займаецца музыкай, ходзіць у нядзельную школу і спявае з хорам на літургіі. Ён любіць сваіх бацькоў. Хочацца, каб яго душу ўзбагачалі самыя лепшыя апавяданні і аповесці.

Узнікла ўнутраная патрэба ўдзяць у бібліятэцы іншыя кнігі Віктара Карамазава, бо пісьменнік у мінулым годзе адзначаў 80-годзе, пра яго паведамлялася ў друку. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя К. Каліноўскага Віктар Філімонавіч Карамазаў стварыў цэлую серыю раманаў-эсэ пра беларускіх мастакоў: Станіслава Жукоўскага, Антона Бархаткова, Гаўрыла Вашчанку, Мікалая Неўрава. Жыццю і творчасці выдатнага пейзажыста Вітольда Бялыніцкага-Бірулі прысвечана кніга "Крыж на зямлі і поўня ў небе" ( 1991). У ёй праходзіць думка пра глыбокую сувязь мастака з роднай зямлёй і прыродай.

Аўтар цытуе лісты і дзённікі мастака: "Блукаючы са стрэльбай і фарбамі па палетках, далінах і пералесках Беларусі, сустракаючы і праводзячы зоры ля вогнішчаў, начуючы ў лесе, прыслухоўваючыся да галасоў прыроды, я глыбей адчуў яе прыгажосць, навучыўся яе разумець."

"За восем гадоў вандровак па слядах Бірулі ,- піша Віктар Карамазаў, - я сустрэў шмат людзей, якія яго (Бірулю) шчыра любяць, чуюць, як сказаў адзін з іх, дыхам. Найбольш іх сустракаў у Беларусі, сярод люду простага, неказеннага, у асяроддзі мастакоў, леснікоў, паляўнічых - людзей прыроды. Пейзажысты, якія жывуць у правінцыі, - яго духоўныя дзеці. Яны яго ведаюць пераважна па выпадковых рэпрадукцыях у сталічных часопісах, некаторым у рукі трапілі альбомы, яны хочуць бачыць яго пейзажы часцей, хочуць чытаць пра яго, але мала каму на гэта шанцуе - няма ні кніжак, ні альбомаў. І пісаў наш духоўны брат шмат, ні дня без мазочка, толькі у нас, на Беларусі, каля шасцісот яго жывапісных работ, сотні карцін ды эцюдаў па музеях, галерэях, прыватных зборах ад Архангельска да Тбілісі, ад Калініграда да Уладзівастока. Пісаў і прозу, і вершы. А яго лісты да дачкі Любы, да сяброў - мастацтва таксама высокае і патрэбнае ў нашым духоўным жыцці. Не выпадкова яго найбліжэйшы сябра Станіслаў Жукоўскі аднойчы адгукнуўся з Варшава: "Твой ліст - вялікі лірычны і рамантычны твор! Па глыбіні пачуццяў і назіральнасці ён вышэй за Тургенева. Я ўсім даю яго чытаць як узор глыбока змястоўнай душы." Дык хто і што не пускае ўсяго Бірулю да ўсіх нас?" - ставіць пытанне пісьменнік у дзённіку " З вясной у адным вагоне", які даў назву ўсяму зборніку.

"Бірулёвы пачаткі - Друць, Крынкі - тыя, што тут, вада,зямля, тутэйшыя лясы, палеткі, лугі, даляглядны. Калі б яны былі іншымі, іншым быў бы Біруля. Іншым ён нам не патрэбны, мы любім яго такім, які ён ёсць, і таму мы рады сустрэчы з яго берагам,"- піша аўтар пасля наведвання родных мясцін творцы.

Чаму б не пазнаёміць школьнікаў менавіта з такім творам пісьменніка, выдадзеным у 2002 годзе? Хіба такія думкі не ўзбагацілі б сталічнага васьмікласніка ў 21-тым стагоддзі? Хіба не надалі б гармоніі і супакою сярод інтэрнет-гульняў і інфармацыйнага буму?

Таксама цяжка зразумець, чаму дзеці вывучаюць па беларускай літаратуры ў восьмым класе апавяданне Міхася Стральцова "Адзін лапаць, адзін чунь", хаць маглі б пазнаёміцца хаця б з адрыўкамі эсэ таго ж аўтара "Загадка Багдановіча", якое відавочна зразумелае ім па-ўзросце і ўзроўні развіцця. Бацькі разважаюць, раяцца паміж сабой. Настаўніцы паціскаюць плячыма - не мы складаем школьную праграму! Дык хто ж зоймецца тым, каб прапанаваць маладому чытачу ў час яго сталення лепшыя творы сучаснай беларускай літаратуры?

*Э. Дзвінская.*

# Марцін Кухта

Гэты тэлефонны званок адбыўся ў мяне ў сакавіку 2010 года. На тым канцы каля апарата чалавек адрэкамендаваўся Аляксандрам, ён працытаваў мне апошнія вершаваныя неўміручыя радкі паэта, які нарадзіўся на Беларусі, жыў, вучыўся, працаваў у Расіі, памёр і пахаваны на Крымскім паўвостраве - Максіма Багдановіча:

*Ў краіне светлай, дзе я ўміраю,*
*У белым доме ля сіняй бухты,*
*Я не самотны, я кнігу маю*
*З друкарні пана*
*Марціна Кухты.*

Далей чалавек папрасіў мяне "расшыфраваць" імя і прозвішча друкара з Вільні. З імем я справіўся адразу, бо *Марцін* паходзіць, гэта агульнавядома, ад імя рымскага антычнага бога вайны - *Марса*. На Беларусі яно мае яшчэ размоўны варыянт *Мартын* і вытворныя формы - *Мартунчык, Мартунька, Мартуська, Мартынанька, Мартынка, Мартынчак, Мартынчык, Марцік, Марцінка, Марцінак, Марцісь, Марціська...* Імяніны (праваслаўныя): 27.04, 25.10; (каталіцкія): 30.01, 13.04, 24.10, 3.11, 11.11, 7.12. Для цікаўных людзей мы таксама скажам, што акрамя іншага гэты бог *Марс* абараняў мірную працу, а першапачаткова шанаваўся як бог земляробства і гадоўлі быдла.




*Мемарыяльная дошка ў Вільні на будынку, у якім у 1906 - 1921 гадах размяшчалася друкарня Марціна Кукты (вул. Татару, 20)*

На другое пытанне з-за сваёй недасведчанасці не змог адказаць, папрасіў мне перазваніць праз тыдзень, але званка ад Аляксандра не дачакаўся і па сёння. Праўда, і тады ў вызначаны тэрмін я не змог "раскадзіраваць" прозвішча *Кухта*. Мне спатрэбілася яшчэ каля 5 гадоў, каб адолець шматлікія слоўнікі, даведнікі, календары, іншую літаратуру, каб даведацца і прыйсці да вытокаў, што значыць слова *"кухта"* і яшчэ адно, якое ідзе ад яго - *"кухтаабабіванне"*.

Адразу ж звярну ўвагу чытачоў, што ў першым выдадзеным прыжыццёвым зборніку твораў "Вянок" Максіма Багдановіча было пазначана, што ён аддрукаваны ў друкарні Марціна Куты. Зразумела, што гэта звычайная друкарская і карэктарская памылка.

Для сваёй цікаўнасці вырашыў пагартаць тэлефонны даведнік Баранавіцкай гарадской сеткі за 2006 г. Як аказалася, у ім прозвішча *Кухта* вельмі распаўсюджанае і ў горадзе, і ў раёне, што жывуць людзі з гэтым найменнем найболей у Баранавічах, а таксама ў вёсках Адахаўшчына, Нагорная, Вялікая Каўпеніца. Падлясейкі, Жамчужны, Малая Каўпеніца, Ніжняе Чэрніхава... Паводле падлікаў розныя Кухты мелі тады 45 тэлефонных нумароў.

У адным з замежных даведнікаў-календароў вычытаў: *"Сярэдзіна лютага прыйдзе - кухтаабабіванне снег з дрэваў на зямлю зваліць. (Кухта - касматы іней.)"* (Даецца ў перакладзе на беларускую мову - *М.У.*)

Можна яшчэ сказаць на нашай мове, што *кухта* - яшчэ можа быць - *калматы (кудлаты) іней*; ці як па першым вызначэнні слова - *шэрань* (тонкі снежны слой, які ўтвараецца дзякуючы выпарэнням паверхні пры рэзкім пахаладанні) *касматая, (калматая, кудлатая)*.

Вынік: прозвішча *Кухта* - старажытнабеларускае, яно ўпэўнена прайшло праз стагоддзі, каб быць увекавечаным нашым Максімам Кніжнікам.

Застаецца дадаць, што Марцін Міхайлавіч Кухта (1875 - 1942?) - беларускі выдавец, друкарня ім была заснавана ў 1906 г., менавіта ў ёй выйшаў і першы нумар "Нашай Ніvы" (20 (23).11.1906), апублікаваны творы Ф. Багушэвіча, Я. Коласа, Цёткі, К. Буйло:

*Люблю наш край,*
*старонку гэту,*
*Дзе я радзілася, расла,*
*Дзе першы раз*
*спазнала шчасце,*
*Слязу нядолі праліла.*

і іншых.

Мы памятаем Марціна Кухту, яго неацэнены дасюль усімі намі ў змрочныя крывавыя часы царскага самаўладдзя подзвіг у імя беларускага слова, літаратуры і гісторыі. У 2015 годзе спаўняецца 140 гадоў з дня яго нараджэння.

***Міхась Угрынскі.***

# Выстава, прысвечаная Тадэвушу Рэйтану

**15 студзеня 2015 г. а 17-00, галерэя "Лабірынт", Нацыянальная Бібліятэка Беларусі, праспект Незалежнасці, 116, Менск. Тадэвуш RE: turn - выстава прысвечаная 275-ай гадавіне з дня нараджэння Тадэвуша Рэйтана**




Выстава прысвячаецца памяці Тадэвуша Рэйтана, Вялікага сына беларускай зямлі, Героя з вялікай літары, адно імя якога доўгі час для нашых суайчыннікаў з'яўлялася сінонімам слова "патрыёт". Як вядома, за сваё кароткае жыццё, Тадэвуш здзейсніў толькі адзін подзвіг, але рэха яго пралунала па ўсім свеце. У 1773 г. , пад час надзвычайнага сойму Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў, на які ён быў абраны дэпутатам, Навагрудскага ваяводтсва ВКЛ, Рэйтан, на чале невялікай па колькасці групы паслоў з беларускіх земляў, выказаў рашучую нязгоду планам зацвердзіць Першы падзел Рэчы Паспалітай.

Тут, на яго Бацькаўшчыне, асабліва на Наваградчыне, ганарыліся сваім вялікім земляком, нават надавалі школам і вуліцам яго імя, усталёўвалі помнікі і памятныя дошкі. Але, пад уплывам падзей 20 ст., з выхадам на гістарычную сцэну новых герояў, пакліканых неабходнасцю часу, пра яго пачалі забывацца. Тым не менш, з моманту як Рэспубліка Беларусь стала суверэннай краінай, руплівай працай гісторыкаў, літаратараў і мастакоў пачалі "вяртацца на Бацькаўшчыну" нашы славутыя землякі, якія за папярэднія некалькі дзесяткаў гадоў атрымалі трывалыя "замежныя" пашпарты". Так, але не без складанасцяў, знайшлі дарогу да роднага ганка Адам Міцкевіч, Напалеон Орда, Тадэвуш Касцюшка, Станіслаў Манюшка, Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч), і яшчэ шмат хто з не менш вядомых асобаў.

Але, Тадэвушу Рэйтану такой увагі не надалі. Цяжка зразумець, але чалавек, на прыкладзе якога было выхавана шмат пакаленняў патрыётаў нашай зямлі, які быў апеты Адамам Міцкевічам у "Пане Тадэвушу", якому былі прысвечаны творы Юльяна Урсына Нямцэвіча і Генрыка Жавускага вядомых літаратараў XIX ст., мастакоў віленскай мастацкай школы Францішка Смуглевіча і Людвіка Горварта і іншых, за 23 гады Незалежнасці быў прысвечана толькі тузін артыкулаў. Пісалі аб ім М. Турыянскі, У. Емельянчык, З. Сіцька, С. Чарановіч, У. Арлоў, З. Санько і інш. Але, гэтага было яўна недастаткова, каб імя Тадэвуша Рэйтана трывала ўвайшло ў наш айчынны пантэон вялікіх людзей краіны.

Сядзіба Рэйтанаў, якой пашанцавала непарушна перажыць падзеі 19-20 ст. у незалежнай Беларусі прыйшла ў амаль поўны заняпад. Замест мемарыяльнага музея адной з самых значных у нашай гісторыі постацей, там вірують каханы ды гукаюць па начах совы, замест культурнага жыцця - цішыня.

Ладзячы на пачатку 2015 г. мастацкую выставу, прысвечаную Тадэвушу Рэйтану, мы, у 275-ю гадавіну з дня яго нараджэння, аддаем даніну павагі яго подзвігу і яго памяці.

На выставе можна будзе ўбачыць не толькі творы сучасных беларускіх мастакоў - графічны шэраг "Род Рэйтанаў. Асобы. Падзеі" А. Родзіна і З. Юркевіча, Р. Сітніцы, М. Купавы, Р. Батальёнка, В. Вядрэнка, К. Янушкевіч, А. Лабкоўскага, П. Татарнікава, З. Вішнева, Дз. Шапавалава, С. Бадак, А. Шарыпы, В. Мікіты, М. Аўчыннікава, А. Ясінскай, К. Булас, А. Чэкан , а таксама В. Маркаўца, П. Шарыпы, Я. Куліка, але і рэпрадукцыі выяў Тадэвуша Рэйтана нашых папярэднікаў - мастакоў XVIII-XX стст. Ф. Смуглевіч, Л. Горварта і інш., літаратурныя творы, прысвечаныя Тадэвушу Рэйтану, а таксама стварэныя пляменнікамі Тадэвуша - Станіславам Рэйтанам і Ганнай Герычо з Рэйтанаў, памятныя медалі з прыватных збораў і кнігасховішчаў НББ.

Выстава абяцае быць цікавай і насычанай, а галоўнае павіна стаць знакавай падзеяй году!

***Зміцер Юркевіч,***
***Алесь Родзін,***
*Арт -суполка імя Тадэвуша Рэйтана, фестываль эксперыментальнага мастацтва "Дах"*
*www.reyten.blogspot.com*
*lefthunder@gmail.com*
*+375 33 7357250.*




## У Чарнігаве крамы прывабліваюць беларускамоўнымі білбордамі

Чарнігаў, чыгуначны вакзал, бігборд для "беларусаў на закупах". Так, з памылкамі. Але ўсё адно прыемна!

Тым больш, што нашыя грамацеі тых памылак не заўважаюць.

***Уладзіслаў Ахроменка.***

## Летува перайшла на еўра з "Пагоняй"

З 1 студзеня ў Літве ўведзена агульная валюта Еўрапейскага саюза - еўра. Літва стала 19-м членам зоны еўра.

Прэзідэнт краіны Даля Грыбаўскайтэ ў навагоднім віншаванні назвала ўвядзенне еўра "магчымасцю расці і быць сучаснай еўрапейскай дзяржавай ..." Неўзабаве пасля апоўначы першыя банкноты еўра з банкамата ў цэнтры Вільні дастаў прэм'ер А. Буткявічус.

- Сімвал літа Пагоня становіцца адным з знакаў сям'і еўра. Рыцар у даспехах з мячом і тарчай будзе адбіты на манетах еўра, - сказаў ён.

***Еўрарадыё.***




*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Вінцук Вячорка, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.
**http://naszaslowa.by/ http://pawet.net/**
**http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацый***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 12.01.2015 г. у 10.00. Замова № 2.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 8750 руб., 3 мес.- 26250 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.